**Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі ў 2015 г.**

**Аналітычны агляд**

**Асноўныя высновы:**

*- далейшая эскалацыя расійска-ўкраінскага крызісу і змены геапалітычнай сітуацыі вакол Рэспублікі Беларусь аказвалі істотны ўплыў на знешнюю і ўнутраную палітычную сітуацыю ў краіне, а таксама на грамадскую думку на працягу ўсяго 2015 года;*

*- 22 жніўня 2015 г. у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта аб памілаванні былі вызваленыя з месцаў пазбаўлення волі шасцёра палітвязняў: Мікалай Статкевіч, Мікалай Дзядок, Юры Рубцоў, Яўген Васьковіч, Ігар Аліневіч і Арцём Пракапенка. У якасці кроку ў адказ ЕС і ЗША прыпынілі дзеянне раней уведзеных у дачыненні да Беларусі абмежавальных санкцый;*

*- вызваленне палітвязняў было ажыццёўлена ўладамі без зняцця судзімасці, што на практыцы азначае наяўнасць рознага роду абмежаванняў іх грамадзянскіх і палітычных правоў (немагчымасць балатавацца на выбарах усіх узроўняў, ажыццяўленне ў дачыненні да іх нагляду), магчымасць прымянення больш жорсткіх захадаў кантролю з боку праваахоўных і судовых органаў на працягу ўсяго перыяду да пагашэння судзімасці. Такім чынам, патрабаванне ЕС аб поўнай рэабілітацыі палітвязняў засталося невыкананым уладамі краіны;*

*- пачынаючы са жніўня 2015 года, у краіне абазначыліся некаторыя пазітыўныя тэндэнцыі ў галіне правоў чалавека, якія выяўляліся ў адмове ад практыкі гвалтоўнага спынення несанкцыянаваных мірных сходаў і арыштаў іх арганізатараў і ўдзельнікаў, а таксама ў прыпыненні да канца года практыкі адміністратыўнага пераследу незалежных журналістаў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ. Аднак цалкам адмовіцца ад практыкі адміністрацыйнага пераследу ўдзельнікаў мірных сходаў і журналістаў-фрылансераў улады так і не змаглі;*

*- у цэлым, ніякіх сістэмных зменаў, скіраваных на якаснае паляпшэнне сітуацыі з правамі чалавека ў краіне на працягу 2015 года, не адбылося. Асноўныя грамадзянскія і палітычныя правы заставаліся абмежаванымі на заканадаўчым узроўні. Нягледзячы на агульнае зніжэнне маштабу рэпрэсій, узровень кантролю над грамадствам заставаўся вельмі высокім;*

*- асаблівую занепакоенасць выклікаюць выпадкі аказання ціску на праваабаронцаў у сувязі з ажыццяўленнем імі мірнай дзейнасці па абароне правоў іншых асобаў: гэта высылка з краіны праваабаронцы Алены Танкачовай, а таксама выпадкі ціску на праваабаронцу Леаніда Судаленку;*

*- нягледзячы на вызваленне палітвязняў, раней распачатыя палітычна матываваныя крымінальныя справы ў дачыненні да Алеся Міхалевіча, кандыдата ў Прэзідэнты на выбарах 2010 года, які вярнуўся з іміграцыі ў Беларусь, журналіста і аглядальніка тыднёвіка «Белорусы и рынок» Аляксандра Алесіна, моладзевых актывістаў анархісцкага руху Максіма Пякарскага, Вадзіма Жаромскага і Вячаслава Касінерава цягам 2015 г. так і не былі спыненыя. У калоніі працягвае знаходзіцца заснавальнік ліквідаванай прыватнай культурна-асветніцкай установы «Платформ Инавейшн» Міхаіл Жамчужны, крымінальны пераслед якога быў прызнаны беларускімі праваабарончымі арганізацыямі палітычна матываваным;*

*- выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якія адбыліся 11 кастрычніка, прайшлі без прымянення гвалту ў дачыненні да палітычных апанентаў улады, аднак сам выбарчы працэс не адпавядаў асноўным міжнародным стандартам правядзення дэмакратычных і свабодных выбараў: адсутнічаў роўны доступ да сродкаў інфармацыі для ўсіх кандыдатаў, адсутнічалі бесстароннія выбарчыя камісіі, актыўна выкарыстоўваўся адміністрацыйны рэсурс на карысць дзейнага*

*кіраўніка дзяржавы, шэраг выбарчых працэдур насіў закрыты для назіральнікаў характар. Найбольш важнай падставай для крытыкі выбараў застаецца адсутнасць празрыстасці падліку галасоў, што не дазваляе лічыць аб'яўленыя вынікі выбараў адлюстраваннем волевыяўлення выбаршчыкаў;*

*- Беларусь працягвала практыку вынясення і прывядзення ў выкананне смяротных прысудаў. На працягу 2015 г. стала вядома аб двух такіх прысудах: у дачыненні да жыхара Рэчыцы Сяргея Іванова і жыхара Лідскага раёна Івана Куляша;*

*- у 2015 годзе ўлады працягнулі практыку ўвядзення элементаў прымусовай працы на заканадаўчым узроўні. Ухвалены заканадаўцамі Дэкрэт №3 Прэзідэнта абавязаў некаторыя катэгорыі непрацуючых грамадзянаў да выплаты спецыяльнага збору па кампенсацыі расходаў дзяржавы ў сацыяльнай сферы. У выпадку нявыплаты такога збору грамадзяне падлягаюць адміністрацыйнай адказнасці, у тым ліку, у выглядзе адміністрацыйнага арышту з абавязковым прыцягненнем да працы;*

*- нягледзячы на актыўны ўдзел Беларусі ў працэдуры другога раўнда Універсальнага перыядычнага агляду ў Савеце па правах чалавека ААН, улады працягвалі палітыку выбарчага супрацоўніцтва ў межах дамоўных абавязальніцтваў ААН: рашэнні Камітэта па правах чалавека ААН па індывідуальных зваротах грамадзянаў Беларусі ўладамі не выконваліся, а мандат спецыяльнага дакладчыка па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, заснаваны Саветам па правах чалавека ААН, ігнараваўся.*

**1. Палітычныя зняволеныя і палітычна матываваны крымінальны пераслед**

На працягу сямі месяцаў 2015 г. (да 22 жніўня) у турмах Беларусі працягвалі знаходзіцца шасцёра палітвязняў, якія прызнаваліся такімі беларускімі і міжнароднымі праваабарончымі арганізацыямі: Мікалай Статкевіч, Мікалай Дзядок, Ігар Аліневіч, Юры Рубцоў, Яўген Васьковіч і Арцём Пракапенка.

Вызваленне ўсіх палітвязняў з'яўлялася асноўным патрабаваннем да ўладаў Беларусі з боку ЕС і ЗША і называлася як адна з перадумоваў для пачатку паўнавартаснага дыялогу.

Варта адзначыць, што вызвалення менавіта гэтых шасці асуджаных патрабавалі ад уладаў Беларусі Праваабарончы цэнтр "Вясна" і іншыя праваабарончыя арганізацыі краіны. Прадстаўнікі ЕС доўгі час не канкрэтызавалі персаналіі і колькасць палітвязняў, на вызваленні якіх яны настойвалі. 23 студзеня 2015 г. дзяржсакратар МЗС Латвіі Андрэйс Пілдэговічс, знаходзячыся з афіцыйным візітам у Менску, упершыню агучыў колькасць палітвязняў, на вызваленні якіх настойваў ЕС. Чыноўнік МЗС Латвіі назваў прозвішчы толькі трох асуджаных – М. Статкевіча, М. Дзядка і І. Аліневіча.

Улады Беларусі, у сваю чаргу, працягвалі адмаўляць наяўнасць якіх-небудзь палітвязняў у краіне. Пра гэта неаднаразова публічна заяўлялі як кіраўнік дзяржавы А. Лукашэнка, так і міністр замежных справаў краіны У. Макей. Пры гэтым улады таксама заяўлялі, што наяўнасць “так званых” палітвязняў з'яўляецца перашкодай на шляху нармалізацыі адносінаў з краінамі Захаду. Акрамя таго, розныя афіцыйныя асобы краіны, уключаючы і самога А. Лукашэнку, неаднаразова, як публічна, так і непублічна, выказвалі сваю пазіцыю аб тым, што вызваленне дадзеных асуджаных магчыма толькі пры наяўнасці асабістых пісьмовых зваротаў з просьбай аб памілаванні на імя Прэзідэнта. Варта адзначыць, што Праваабарончы цэнтр «Вясна» неаднаразова адзначаў, што дадзенае патрабаванне аб асабістым звароце супярэчыць як дзейснаму заканадаўству, так і бягучай правапрымяняльнай практыцы.

Пры гэтым, калі палітвязень Арцём Пракапенка звярнуўся з такім прашэннем на імя Прэзідэнта, яму было адмоўлена ў памілаванні. У 2012 годзе такое ж прашэнне ад асуджанага па гэтай жа самай крымінальнай справе Паўла Сырамалотава было задаволенае і ён быў вызвалены. У выніку,

22 жніўня А. Пракапенка быў усё ж вызвалены з месцаў пазбаўлення волі паводле працэдуры памілавання без якіх-небудзь прашэнняў з яго боку, што яшчэ раз пацвердзіла тэзіс аб тым, што пытанне вызвалення палітвязняў знаходзілася выключна ў палітычнай, а не ў прававой плоскасці.

На працягу першай паловы 2015 г. назіралася значная актывізацыя знешнепалітычных кантактаў афіцыйнага Менска з прадстаўнікамі ЕС і ЗША. У Беларусь з афіцыйным візітам прыязджалі такія высокапастаўленыя прадстаўнікі ЕС, як намеснік генеральнага сакратара Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў Хельга Марыя Шмід, намеснік старшыні групы Еўрапейскай народнай партыі ў Еўрапарламенце Сандра Калніеце, намеснік памочніка дзяржсакратара ЗША па справах Еўропы і Еўразіі Эрык Рубін, спецдакладчык па Беларусі Камісіі па палітычных пытаннях і дэмакратыі ПАСЕ Андрэа Рыгоні і іншыя афіцыйныя асобы. У парадку дня перамоваў, акрамя іншых пытанняў, якія ўяўлялі ўзаемную цікавасць для бакоў, прысутнічалі і пытанні захавання правоў чалавека ў краіне, у тым ліку і праблема наяўнасці палітвязняў. У лютым 2015 г., у сувязі з распачатымі у Менску перамовамі па ўрэгуляванні крызісу ва Украіне, краіну наведалі Прэзідэнт Расіі У. Пуцін, Прэзідэнт Украіны П. Парашэнка, Прэзідэнт Францыі Ф. Аланд, канцлер Германіі А. Меркель. Такім чынам Беларусь стала перамоўнай пляцоўкай па ўрэгуляванні крызісу ва Украіне, што атрымала высокую ацэнку з боку сусветнай супольнасці.

Варта адзначыць, што украінска-расійскі крызіс аказаў істотны ўплыў на развіццё як знешнепалітычнай, так і ўнутранай сітуацыі ў краіне. Менавіта ў сувязі з развіццём дадзенай крызіснай сітуацыі і пачаткам ваеннага супрацьстаяння паміж Расіяй і Украінай ўлады Беларусі пачалі праводзіць знешнюю палітыку, накіраваную на паляпшэнне адносінаў з ЕС і ЗША. Менавіта гэтая новая геапалітычная сітуацыя, якая склалася вакол Беларусі, і адыграла істотную ролю ў пытанні вызвалення ўсіх палітвязняў.

Сама ж наяўнасць палітвязняў заставалася для праваабарончых арганізацый краіны адной з найбольш актуальных праблемаў у галіне правоў чалавека на працягу ўсяго перыяду іх знаходжання ў зняволенні, аж да вызвалення 22 жніўня 2015 г.

Практычна ўсе палітвязні сутыкаліся з ціскам з боку адміністрацыі папраўчых установаў, у якіх яны адбывалі пакаранне. Гэты ціск выяўляўся ў неабгрунтаваным прыцягненні зняволеных да дысцыплінарнай адказнасці за нібыта здзейсненыя імі парушэнні правілаў унутранага распарадку, у тым ліку ў выглядзе змяшчэння ў СІЗА і ПКТ. Наяўнасць такіх спагнанняў прыводзіла да таго, што ў дачыненні да ўсіх палітвязняў быў усталяваны статус “злосных парушальнікаў” рэжыму, што, у сваю чаргу, пазбаўляла іх права на амністыю і ўмоўна-датэрміновае вызваленне. На думку Праваабарончага цэнтра «Вясна», дадзены ціск меў арганізаваны характар і з'яўляўся часткай палітыкі дзеючага рэжыму па барацьбе са сваімі палітычнымі апанентамі.

У дачыненні да М. Статкевіча, М. Дзядка і Е. Васьковіча ў судовым парадку быў узмоцнены рэжым утрымання, і яны адбывалі пакаранне ва ўмовах турэмнага рэжыму, прычым у дачыненні да М. Статкевіча такое рашэнне прымалася двойчы.

4 траўня на тэрыторыі папраўчай калоніі №9 г. Шклова прайшло судовае пасяджэнне, на якім было разгледжана пытанне аб змене рэжыму ўтрымання палітвязня Мікалая Статкевіча. Суддзя Шклоўскага раённага суда Святлана Баранцава прыняла рашэнне аб змене рэжыму ўтрымання і накіраванні Мікалая Статкевіча для далейшага адбыцця пакарання ў турму да заканчэння ўсяго тэрміну пазбаўлення волі – на 1 год, 7 месяцаў і 15 дзён.

Судовы працэс фактычна адбыўся ў закрытым рэжыме. На яго не змаглі трапіць прадстаўнікі СМІ, праваабаронцы, у тым ліку старшыня Праваабарончага цэнтра «Вясна» і віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека Алесь Бяляцкі, юрыст Павел Сапелка, а таксама прадстаўнікі Еўрапейскага Саюза ў Беларусі. Супрацоўнік калоніі ў званні маёра паведаміў прысутным каля калоніі грамадзянам, што суд будзе закрытым і запатрабаваў адысці ад

тэрыторыі, прылеглай да калоніі. Выключэнне было зроблена толькі для жонкі Статкевіча Марыны Адамовіч, якой дазволілі прысутнічаць на судовым працэсе.

Пазней стала вядома, што Мікалай Статкевіч быў этапаваны ў турму №4 г. Магілёва, адкуль трыма месяцамі раней ён быў адпраўлены ў шклоўскую калонію пасля заканчэння трохгадовага тэрміну ўтрымання ва ўмовах турэмнага рэжыму.

У дачыненні да двух палітвязняў – М. Дзядка і Ю. Рубцова – былі распачатыя новыя крымінальныя справы ў перыяд адбыцця імі вынесенага раней пакарання ў выглядзе пазбаўлення і абмежавання волі.

Так, 26 лютага, за 5 дзён да завяршэння тэрміну пакарання, палітвязень Мікалай Дзядок быў присуджаны да аднаго дадатковага года зняволення ў калоніі строгага рэжыму па арт. 411 КК ("злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы"). Суд праходзіў на тэрыторыі папраўчай установы, ніхто акрамя блізкіх сваякоў не меў магчымасці прысутнічаць на судовых слуханнях па справе.

Варта нагадаць, што Праваабарончы цэнтр «Вясна» неаднаразова заяўляў аб заганнай практыцы прымянення дадзенага артыкула і звяртаўся з адпаведнай заявай у Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь з прапановай выключыць з Крымінальнага кодэкса артыкул 411, які вельмі часта ўжываецца выбарча ў дачыненні да зняволеных, непажаданых для адміністрацыі папраўчых установаў, альбо па палітычных матывах, і прадугледжвае магчымасць крымінальнага пераследу за здзейсненыя раней дысцыплінарныя правіны, што не ўяўляюць грамадскай небяспекі.

27 траўня ў судзе Пружанскага раёна распачаўся судовы працэс па абвінавачванні палітвязня Юрыя Рубцова па арт. 415 КК Рэспублікі Беларусь ("ухіленне ад адбыцця пакарання ў выглядзе абмежавання волі"). 28 траўня Юры Рубцоў быў прызнаны вінаватым ва ўхіленні ад адбыцця пакарання і прысуджаны да двух гадоў пазбаўлення волі. Да суда ён утрымліваўся пад вартай у СІЗА г. Баранавічы, дзе доўгі час трымаў галадоўку пратэсту супраць нездавальняючых умоваў утрымання. Раней Ю. Рубцоў быў асуджаны да абмежавання волі па арт. 391 КК (абраза суддзі або народнага засядацеля).

10 чэрвеня праваабарончая арганізацыя Amnesty International прызнала Юрыя Рубцова вязнем сумлення і заявіла, што разглядае вынесены ў дачыненні да яго новы прысуд як частку доўгатэрміновай кампаніі пераследу актывістаў грамадзянскай супольнасці з боку беларускіх уладаў. Дадзеная аўтарытэтная міжнародная арганізацыя абвясціла тэрміновую акцыю па яго вызваленні.

22 жніўня Указам Прэзідэнта былі памілаваныя і вызваленыя ад далейшага адбыцця пакарання Мікалай Статкевіч, Мікалай Дзядок, Ігар Аліневіч, Юры Рубцоў, Яўген Васьковіч і Арцём Пракапенка. Варта адзначыць, што ўсе палітзняволеныя былі вызваленыя без зняцця судзімасці. На практыцы гэта азначае, што ў дачыненні да ўсіх вызваленых пры пэўных умовах (здзяйсненне трох адміністрацыйных парушэнняў на працягу года, за здзяйсненне якіх санкцыямі артыкулаў КаАП прадугледжаны спагнанні ў выглядзе адміністрацыйнага арышту) у судовым парадку можа быць усталяваны прэвентыўны нагляд, за парушэнне якога прадугледжаная крымінальная адказнасць. Акрамя таго, у перыяд пагашэння судзімасці грамадзяне не маюць права балатавацца на выбарах усіх узроўняў. Такім чынам, патрабаванне ЕС аб поўнай рэабілітацыі палітвязняў заставалася актуальным да канца 2015 года.

ЕС і ЗША віталі вызваленне палітвязняў, і ў якасці кроку ў адказ прыпынілі раней уведзеныя ў дачыненні да Беларусі санкцыі. ЕС прыпыніў дзеянне санкцый на чатыры месяцы, а ЗША на паўгода. Праваабарончы цэнтр «Вясна» выступіў з адмысловай заявай, у якім вітаў дадзены крок

беларускіх уладаў, заклікаўшы пры гэтым улады да далейшых захадаў, накіраваных на паляпшэнне сітуацыі з правамі чалавека ў краіне, а таксама аднаўленне грамадзянскіх і палітычных правоў вызваленых.

Нягледзячы на тое, што ў перыяд з 22 жніўня і да 2015 канца года новых палітычна матываваных крымінальных справаў у Беларусі не распачыналася, раней распачатыя крымінальныя справы, якія ацэньваліся праваабарончымі арганізацыямі як палітычна матываваныя, спыненыя не былі.

6 жніўня суд Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці завочна працягнуў тэрмін прэвентыўнага нагляду яшчэ на 6 месяцаў былому палітвязню Мікалаю Аўтуховічу. Скаргі Аўтуховіча на грубыя працэсуальныя парушэнні, дапушчаныя судом, не былі задаволеныя.

11 жніўня стала вядома аб затрыманні М. Пякарскага, В. Жаромскага, В. Касінерава, і Я. Ульяненкава па падазрэнні ў здзяйсненні злоснага хуліганства (ч. 2 арт. 339 КК) і псаванні будынкаў і збудаванняў (арт. 341 КК) – нанясенні шэрагу графіці палітычнага зместу на некалькіх збудаваннях у г. Менску і псаванні білборда з выявай супрацоўнікаў міліцыі, які належыць індывідуальнаму прадпрымальніку.

Затрыманне падазраваных адбывалася па месцы іх пражывання з непрапарцыйным ужываннем фізічнай сілы і спецсродкаў. У кватэрах затрыманых праведзеныяператрусы. М. Пякарскі і В. Жаромскі былі змешчаныя ў ІЧУ, а затым і ў СІЗА №1 МУС, у дачыненні да іх была абраная мера стрымання ў выглядзе ўтрымання пад вартай, а В. Касінераў знаходзіўся пад вартай у шпіталі, куды ён быў дастаўлены з падвойным пераломам сківіцы і іншымі цялеснымі пашкоджаннямі. У выніку, па факце прычынення дадзеных пашкоджанняў у дачыненні да супрацоўніка міліцыі была ўзбуджаная крымінальная справа.

20 жніўня М. Пякарскаму і В. Жаромскаму былі афіцыйна прад'яўленыя абвінавачванні па ч. 2 арт. 339 КК, усе тры эпізоды аб'яднаныя ў адну вытворчасць. У сувязі з дадзенымі затрыманнямі і ўзяццем пад варту М. Пякарскага і В. Жаромскага, Праваабарончы цэнтр «Вясна» выступіў з заявай аб прызнанні палітвязнямі асбоаў, якія знаходзіліся пад вартай.

31 жніўня ў сувязі са зменай меры стрымання ў выглядзе ўтрымання пад вартай на падпіску аб нявыездзе, з СІЗА №1 на волю выйшлі абвінавачаныя па ч. 2 арт. 339 КК Максім Пякарскі і Вадзім Жаромскі – фігуранты г. зв. “справы графіцістаў”. Абодва абвінавачаныя ў агульнай складанасці правялі пад вартай больш за 20 дзён.

Практычна адразу пасля затрымання маладых людзей Следчы камітэт выступіў з заявай, у якой яшчэ да завяршэння следства і судовага разбору фактычна абвінаваціў іх здзяйсненні экстрэмісцкіх дзеянняў, распальванні нацыянальнай і сацыяльнай варожасці.

9 снежня фігурантам “справы графіцістаў” Максіму Пякарскаму, Вадзіму Жаромскаму, Яраславу Ульяненкаву і Вячаславу Касінераву былі прад'яўленыя канчатковыя абвінавачванні.

У дачыненні да М. Пякарскага абвінавачванне было перакваліфікаванае з ч. 2 арт. 339 КК (“злоснае хуліганства”) на арт. 341 КК (“апаганьванне збудаванняў і псаванне маёмасці”).

З Я. Ульяненкова былі знятыя ўсе ранейшыя абвінавачванні і крымінальны пераслед у дачыненні да яго быў спынены.

У адносінах да В. Жаромскага і В. Касінерава пакінулі раней прад'яўленае абвінавачванне па ч. 2 арт. 339 КК, пры гэтым В. Жаромскаму інкрымінавалі арт. 341 КК.

Варта адзначыць, што па выніках праведзенай экспертызы прыкметаў экстрэмізму ў малюнках выяўлена не было.

8 верасня пры перасячэнні беларуска-літоўскай мяжы памежнымі службамі Рэспублікі Беларусь быў затрыманы і перададзены органам МУС Алесь Міхалевіч, адзін з кандыдатаў у Прэзідэнты на выбарах 2010 г., які знаходзіўся ў вышуку па крымінальнай справе, распачатай па ч. 1 арт. 293 КК (“арганізацыя масавых беспарадкаў”).

Алесь Міхалевіч вяртаўся ў Беларусь з Чэшскай Рэспублікі, у якой ён папрасіў палітычнага прытулку ў 2011 годзе. У той жа дзень следчымі органамі Беларусі яму была змененая мера стрымання на падпіску аб нявыездзе, аднак справа ў дачыненні да яго не спыненая да гэтага часу. Варта адзначыць, што Алесь Міхалевіч – апошні фігурант справы аб “масавых беспарадках”, распачатай па падзеях 10 снежня 2010 года. Усе астатнія асуджаныя па дадзеных падзеях былі альбо памілаваныя і вызваленыя з месцаў пазбаўлення волі, альбо выйшлі на волю ў сувязі з заканчэннем тэрмінаў пазбаўлення волі, альбо ў дачыненні да іх крымінальныя справы былі спыненыя. Пасля вызвалення з СІЗА КДБ у 2011 годзе А. Міхалевіч публічна заявіў і катаваннях і жорсткім абыходжанні ў дачыненні да яго і іншых фігурантаў справы аб падзеях 19 снежня 2010 г. Да канца 2015 г. гэтая крымінальная справа спыненая не была.

Таксама не была спыненая крымінальная справа, узбуджаная ў 2014 годзе ў дачыненні да журналіста і аглядальніка тыднёвіка «Белорусы и рынок» Аляксандра Алесіна.

Нагадаем, што А. Алесін быў затрыманы супрацоўнікамі КДБ у адной з кавярняў г. Менска падчас сустрэчы і нібыта перадачы матэрыялаў, якія ўяўляюць дзяржаўную тайну, прадстаўніку амбасады адной з краінаў ЕС. А. Алесін быў затрыманы па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства па арт. 356 КК (“здрада Радзіме”) і змешчаны ў СІЗА КДБ у г. Менску. 10 снежня 2014 г. Алесін быў вызвалены з-пад варты ў сувязі са зменай меры стрымання на падпіску аб нявыездзе, а абвінавачанне ў дачыненні да яго было перакваліфікаванае на арт. 356.1 КК (“усталяванне супрацоўніцтва з органамі замежнай разведкі без прыкметаў здрады Радзіме”). Пры гэтым органам крымінальнага пераследу ў А. Алесіна насуперак нормам крымінальна-працэсуальнага заканадаўства была ўзятая падпіска аб неразгалошванні матэрыялаў следства. Такім чынам, пад пагрозай крымінальнага пераследу А. Алесін баяўся рабіць якія-небудзь каментары адносна гэтай справы, у тым ліку ў дачыненні да свайго працэсуальнага статусу.

Асобна варта адзначыць крымінальную справу Міхаіла Жамчужнага. Міхаіл Жамчужны з'яўляўся заснавальнікам прыватнай культурна-асветніцкай установы «Платформ Інавейшн», адным з відаў дзейнасці якой было правядзенне маніторынгу месцаў прымусовага ўтрымання грамадзянаў. Доўгі час праваабарончыя арганізацыі Беларусі не мелі якой-небудзь інфармацыі па гэтай справе, сітуацыя ўскладнялася таксама тым, што судовае разбіральніцтва па справе праходзіла ў закрытым рэжыме, а асоба самога М. Жамчужнага і яго дзейнасць былі малавядомыя ў праваабарончых колах.

Прысудам судовай калегіі па крымінальных справах Віцебскага абласнога суда ад 10 ліпеня з улікам зменаў, зробленых у прысудзе судовай калегіяй Вярхоўнага Суда Рэспублікі Беларусь ад 23 кастрычніка, Міхаіл Жамчужны быў асуджаны на 6 гадоў і 6 месяцаў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ва ўмовах строгага рэжыму з пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых абавязкаў. У адпаведнасці з вынесеным прысудам, М. Жамчужны за грашовую ўзнагароду неаднаразова атрымліваў ад супрацоўніка органаў унутраных спраў інфармацыю, якая, на думку М. Жамчужнага, магла ўяўляць грамадскі інтарэс – службовае данясенне па факце смерці затрыманага ў адным з медвыцвярэзнікаў г. Віцебска, спіс даных аб здарэннях з удзелам супрацоўнікаў праваахоўных органаў і інш. Дадзеная інфармацыя складала службовую таямніцу. Усе дадзеныя дзеянні здзяйсняліся М. Жамчужным ў межах следчага эксперыменту, які праводзіўся УКДБ па Віцебскай вобласці. Мэтай дадзенага эксперыменту было ўсталяванне магчымых сувязяў М. Жамчужнага з замежнымі грамадзянамі і магчымае дачыненне яго да больш цяжкага злачынства – шпіянажу. У

сувязі з эксперыментам КДБ, усе супрацьпраўныя дзеянні М. Жамчужнага ня спыняліся, каб злачынствы мелі закончаны склад.

7 снежня прадстаўнікі сямі праваабарончых арганізацыяў распаўсюдзілі сумесную заяву аб прызнанні крымінальнага пераследу Міхаіла Жамчужнага неабгрунтаваным і палітычна матываваным, і запатрабавалі неадкладнага перагляду прынятага ў дачыненні да яго судовага прысуду пры захаванні права на справядлівае судовае разбіральніцтва. На думку праваабаронцаў, закрытасць судовага разбіральніцтва крымінальнай справы М. Жамчужнага была абумоўленая жаданнем схаваць ад грамадскасці сумніўныя метады праваахоўнай дзейнасці публічных органаў.

У сувязі з наяўнасцю ў краіне незакрытых палітычна матываваных крымінальных справаў, Праваабарончы цэнтр «Вясна» і Міжнародная федэрацыя за правы чалавека (FIDH) выступілі з сумеснай заявай, у якой заклікалі ўлады краіны да спынення ўсіх палітычна матываваных крымінальных справаў і правядзення сістэмных рэформаў у галіне правоў чалавека. Таксама, 9 снежня праваабарончыя арганізацыі Беларусі распаўсюдзілі заяву, у якой заклікалі дзяржаўныя органы спыніць палітычна матываваны крымінальны пераслед у дачыненні да М. Пякарскага, В. Жаромскага, Я. Ульяненкава, В. Касінерава, А. Міхалевіча і А. Алесіна, а таксама перагледзець у адкрытым судовым працэсе крымінальную справу ў дачыненні да М. Жамчужнага.

## 2. Супрацоўніцтва і выкананне міжнародных абавязальніцтваў у межах дамоўных працэдураў ААН

У сувязі з тым, што Рэспубліка Беларусь не з'яўляецца сябрам Рады Еўропы і знаходзіцца па-за еўрапейскай рэгіянальнай сістэмай абароны правоў чалавека, адзінай міжнароднай сістэмай абароны правоў чалавека, магчымай для выкарыстання ў мэтах абароны правоў чалавека, з'яўляецца сістэма Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Беларусь з'яўляецца сябрам ААН і ўдзельніцай большасці міжнародных пактаў, Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, у прыватнасці. Аднак, нягледзячы на гэта, Беларусь на працягу многіх гадоў дэманструе выбарчы падыход да пытання выканання ўзятых міжнародных абавязальніцтваў у галіне абароны правоў чалавека ў межах працэдураў ААН.

У 2015 годзе Рэспубліка Беларусь праходзіла другі раўнд Універсальнага перыядычнага дакладу (УПА, UPR) ў Савеце па правах чалавека ААН. Працэдура слуханняў па Беларусі праходзіла ў Савеце па правах чалавека ААН у Жэневе 4 траўня. Пазіцыя Беларусі была агучаная прадстаўнічай дэлегацыяй на чале з намеснікам міністра замежных справаў Валянцінам Рыбаковым з удзелам чыноўнікаў Міністэрства юстыцыі, Міністэрства аховы здароўя, Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, Міністэрства інфармацыі, Міністэрства ўнутраных справаў, Дэпартамента выканання пакаранняў і Вярхоўнага суда. Яны адзначылі важнасць працэдуры УПА для Беларусі, распавялі аб захадах па выкананні рэкамендацый, якія былі вынесеныя ў 2010 годзе, і адказалі на пытанні з боку іншых дзяржаў.

Праваабарончыя арганізацыі Беларусі прынялі актыўны ўдзел у межах працэдураў падрыхтоўкі да праходжання Рэспублікай Беларусь другога раўнда УПА. Кааліцыяй з адзінаццаці праваабарончых арганізацый быў падрыхтаваны альтэрнатыўны даклад па агульнай сітуацыі з правамі чалавека ў краіне і некалькі тэматычных дакладаў: Цэнтрам прававой трансфармацыі Lawtrend сумесна з Асамблеяй НДА – па свабодзе асацыяцый, Офісам па правах людзей з інваліднасцю і праваабарончым праектам «Гей-Беларусь» – па дыскрымінацыі, Беларускім дакументацыйным цэнтрам – па гвалтоўных знікненнях.

Дадзеныя даклады, разам з нацыянальным дакладам, падрыхтаваным МЗС Беларусі, былі прадстаўленыя ў офіс Вярхоўнага камісара па правах чалавека ААН.

Акрамя гэтага, праваабаронцамі былі выпрацаваныя рэкамендацыі да ўрада Беларусі ў межах праходжання УПА. Дадзены дакумент, які змяшчае 48 рэкамендацый у самых розных сферах правоў чалавека, быў прадстаўлены прадстаўнікамі беларускіх праваабарончых арганізацый (БАЖ, Праваабарончага цэнтр «Вясна», Беларускага дома правоў чалавека ім. Б. Звозскава, праваабарончага праекта «Гей-Беларусь») у Жэневе ў рамках прэ-сесіі (папярэдніх слуханняў па Беларусі) 9 красавіка. Дадзенае мерапрыемства выклікала вялікую цікавасць, і яго наведала 41 нацыянальная дэлегацыя Савета па правах чалавека ААН.

У межах працэдураў другога раўнда УПА яшчэ ў 2014 годзе адбыўся шэраг сустрэчаў з удзелам прадстаўнікоў МЗС Беларусі і шэрагу няўрадавых арганізацый, якія прымалі ўдзел у падрыхтоўцы альтэрнатыўнага дакладу. Аднак незарэгістраваныя арганізацыі, у тым ліку Праваабарончы цэнтр «Вясна», да ўдзелу ў дадзеных сустрэчах запрошаны не былі. Гэта яшчэ раз падкрэслівае выбіральнасць падыходаў афіцыйных уладаў да супрацоўніцтва ў рамках ААН.

Варта адзначыць, што УПА – гэта адна з нешматлікіх працэдураў, якія прызнаюцца афіцыйнымі ўладамі Беларусі ў межах дамоўных абавязальніцтваў ААН.

Таксама, як станоўчы прыклад супрацоўніцтва ў рамках дамоўных абавязальніцтваў можна адзначыць той факт, што ўпершыню з 1997 года Рэспубліка Беларусь падрыхтавала справаздачу ў Камітэт па правах чалавека ААН аб выкананні краінай палажэнняў Міжнароднага Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Нагадаем, у адпаведнасці з дадзенай працэдурай, краіны-ўдзельніцы Пакта кожныя чатыры гады прадстаўляюць даклады аб яго выкананні ў КПЧ ААН.

У працэсе распрацоўкі пераліку беларускія НДА атрымалі магчымасць падрыхтаваць справаздачу з прапановамі аб тым, якія пытанні можна было б задаць дзяржаве. Кааліцыя беларускіх праваабарончых арганізацый прааналізавала сітуацыю з правамі чалавека, распрацавала шэраг рэкамендацый і накіравала сваю справаздачу ў Камітэт па правах чалавека ў красавіку 2015 года. Важна адзначыць, што многія пытанні, падрыхтаваныя беларускімі НДА, у выніку былі адлюстраваныя ў Пераліку пытанняў Камітэта па правах чалавека да Беларусі, прынятым у ліпені 2015 года.

Аднак, цягам 2015 года ўлады працягвалі палітыку поўнага непрызнання і ігнаравання мандата спецыяльнага дакладчыка па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі, заснаванага Саветам па правах чалавека ААН 5 ліпеня 2012 г. Спецыяльны дакладчык ААН так і не быў дапушчаны ў краіну і не змог атрымаць інфармацыю пра сітуацыю з правамі чалавека ад прадстаўнікоў дзяржаўных органаў. Прадстаўнікі праваабарончых арганізацый, у сваю чаргу, на працягу года актыўна ўзаемадзейнічалі як з краінавым, так і з тэматычнымі дакладчыкамі ААН.

23 чэрвеня ў межах 29-й сесіі Савета па правах чалавека ААН спецдакладчык па Беларусі спадар Міклаш Харасці выступіў з дакладам па сітуацыі з правамі чалавека ў краіне.

У сваім ўступным слове спадар Харасці заявіў, што сітуацыя ў галіне правоў чалавека ў Беларусі не мела ніякіх прыкметаў паляпшэння, паколькі беларускія ўлады не выправілі ніводнае з глыбокіх і сістэмных парушэнняў, а таксама не стварылі ўмовы для правядзення свабодных і справядлівых выбараў. У прыватнасці, пад пагрозай былі правы на свабоду выказвання меркаванняў, сходаў і асацыяцый, права на справядлівыя і спрыяльныя ўмовы для працы, а таксама на свабоду выбару месца працы. Міклаш Харасці адзначыў, што ў параўнанні з папярэднімі гадамі, мелі месца некаторыя пазітыўныя зрухі, напрыклад, меншая колькасць зняволеных, якія былі прысуджаныя да доўгіх тэрмінаў зняволення ў якасці помсты за іх палітычную дзейнасць, а таксама “вызваленне лідэра буйной праваабарончай арганізацыі”. Тым не менш, спецыяльны дакладчык заклікаў беларускія ўлады не толькі вызваліць, але і ў поўнай меры рэабілітаваць усіх палітычных апанентаў рэжыму, якія апынуліся за кратамі.

4 ліпеня ў выніку галасавання на сесіі Савета па правах чалавека была прынятая рэзалюцыя аб працягу мандата спецыяльнага дакладчыка па Беларусі тэрмінам на адзін год. У прынятай рэзалюцыі СПЧ ААН таксама выказаў глыбокую заклапочанасць з нагоды няспынных парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі, якія носяць "сістэматычны і сістэмны характар". СПЧ заклікаў урад Беларусі правесці рэформы судовай сістэмы і адвакатуры, каб дамагчыся поўнай незалежнасці і бесстароннасці судоў, забяспечыць прэзумпцыю невінаватасці і права на справядлівае судовае разбіральніцтва.

Савет таксама настойліва заклікаў урад Беларусі вызваліць і цалкам рэабілітаваць усіх палітычных зняволеных і заснаваць у Беларусі нацыянальны праваабарончы орган у адпаведнасці з парыжскімі прынцыпамі.

Негатыўным прыкладам выбарчага падыходу да выканання ўзятых дзяржавай абавязальніцтваў у межах дамоваў ААН з'яўляецца невыкананне ўладамі меркаванняў (рашэнняў) КПЧ ААН па індывідуальных зваротах грамадзянаў Беларусі. Дадзеная праблема носіць сістэматычны і сістэмны характар. У апошнія гады Рэспубліка Беларусь, нягледзячы на прызнанне кампетэнцыі Камітэта ААН у выніку ратыфікацыі Першага факультатыўнага пратаколу да Міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, не выканала ніводнае меркаванне КПЧ ААН.

Такім чынам, сярод іншага, улады фактычна нівелююць норму Канстытуцыі, якая гарантуе права грамадзяніна краіны ў адпаведнасці з міжнародна-прававымі актамі, ратыфікаванымі Рэспублікай Беларусь, звяртацца ў міжнародныя арганізацыі з мэтай абароны сваіх правоў і свабодаў, калі вычарпаныя ўсе наяўныя сродкі прававой абароны (арт. 61 Канстытуцыі).

**3. Выбары Прэзідэнта**

1 ліпеня стартавала выбарчая кампанія і кампанія назірання за выбарамі Прэзідэнта «Праваабаронцы за свабодныя выбары».

17 і 20 ліпеня зарэгістраваныя восем ініцыятыўных групаў грамадзянаў па вылучэнні кандыдатаў у Прэзідэнты з чатырнаццаці групаў, якія падалі заявы. У прыватнасці, не была зарэгістраваная ініцыятыўная група палітвязня Мікалая Статкевіча.

Да 17 ліпеня мясцовыя органы ўлады вызначыліся з месцамі, забароненымі для збору подпісаў сябрамі ініцыятыўных групаў грамадзянаў па вылучэнні кандыдатаў у Прэзідэнты. Гэтыя рашэнні прадэманстравалі адсутнасць адзінай практыкі вызначэння такіх месцаў, але, у цэлым, істотна правоў сябраў ініцыятыўных групаў не абмежавалі.

Да 22 ліпеня на сумесных пасяджэннях прэзідыумаў Саветаў дэпутатаў і выканкамаў былі створаныя тэрытарыяльныя камісіі па выбарах Прэзідэнта. У склад 153 камісіяў увайшлі толькі 10 прадстаўнікоў апазіцыйных партый; большую частку з 1 916 сябраў ТВК склалі прадстаўнікі працоўных калектываў і пяці грамадскіх арганізацый – БРСМ, «Белай Русі», ФПБ, Саюза жанчынаў і Беларускага грамадскага аб'яднання ветэранаў, якія па вызначэнні не маюць палітычнай мэты ў сваёй дзейнасці.

З 23 ліпеня пачаўся збор подпісаў ініцыятыўнымі групамі па вылучэнні кандыдатаў у Прэзідэнты. Назіральнікі фіксавалі парушэнні з боку ініцыятыўнай групы дзейнага Прэзідэнта, звязаныя з выкарыстаннем адміністрацыйнага рэсурсу.

У гэты перыяд былі адзначаныя выпадкі ціску на ўдзельнікаў пікетаў па зборы подпісаў у падтрымку вылучэння кандыдатамі ў Прэзідэнты апазіцыйных актывістаў.

Да 21 жніўня працягваўся збор подпісаў у падтрымку вылучэння кандыдатаў у Прэзідэнты. Збор подпісаў у падтрымку А. Лукашэнкі суправаджаўся татальным ужываннем адміністрацыйнага ціску

на выбаршчыкаў і адбываўся, у тым ліку, на працоўных месцах у працоўны час па ініцыятыве прадстаўнікоў адміністрацыі прадпрыемстваў.

З васьмі ініцыятыўных групаў подпісы ў тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі здалі пяць: А. Лукашэнкі, Т. Караткевіч, С. Гайдукевіча, В. Цярэшчанкі і М. Улаховіча. Назіральнікі былі адхіленыя ад удзелу ў працэсе праверкі подпісаў тэрытарыяльнымі камісіямі.

Да 26 жніўня органамі выканаўчай улады былі створаныя ўчастковыя выбарчыя камісіі. Працэс адбору ва УВК быў фармальным; з прадстаўнікоў, вылучаных апазіцыйнымі палітычнымі партыямі, у склад УВК патрапілі ўсяго 6% прэтэндэнтаў – 31 чалавек. Такім чынам, апазіцыя была прадстаўленая ў 0,5% участковых камісій.

У жніўні 2015 г. мясцовыя ўлады вызначыліся з выбарам месцаў для агітацыі за кандыдатаў у Прэзідэнты: адзінай практыкі і адзіных крытэрыяў вызначэння такіх месцаў няма; рашэнні мясцовых органаў выканаўчай улады часта непаслядоўныя і абмяжоўваюць магчымасці кандыдатаў па агітацыі. У цэлым, такія абмежаванні парушаюць права грамадзянаў на мірныя сходы.

У верасні завершаная праверка падпісных лістоў у падтрымку вылучэння кандыдатаў у Прэзідэнты; 10 верасня зарэгістраваныя чатыры кандыдаты ў Прэзідэнты: А. Лукашэнка, Т. Караткевіч, С. Гайдукевіч і М. Улаховіч.

Ужо ў верасні праваабаронцамі зафіксаваная падрыхтоўка да прымусу выбаршчыкаў да галасавання на асобных прадпрыемствах і арганізацыях.

Агітацыя за дзейнага кіраўніка дзяржавы праводзілася з шматлікімі выпадкамі выкарыстання адміністрацыйнага рэсурсу і рэсурсаў дзяржаўных СМІ.

У датэрміновым галасаванні, якое пачалося ў кастрычніку, прынялі ўдзел 36,05 % выбаршчыкаў – найбольшая колькасць за папярэднія прэзідэнцкія кампаніі 2001, 2006 і 2010 гг. Фактычна, датэрміновае галасаванне стала нормай, што не адпавядае патрабаванням ВК. У ходзе датэрміновага галасавання назіральнікамі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары» былі зафіксаваныя шматлікія факты прымусу грамадзянаў да ўдзелу ў ім з боку адміністрацый прадпрыемстваў і ВНУ. Адзначаны выпадкі завышэння яўкі на некаторых выбарчых участках.

У цэлым, паводле ацэнкі кампаніі «Праваабаронцы за свабодныя выбары», выбарчы працэс не адпавядаў шэрагу ключавых міжнародных стандартаў правядзення дэмакратычных і свабодных выбараў. Гэта было абумоўлена адсутнасцю роўнага доступу да сродкаў масавай інфармацыі для ўсіх кандыдатаў, адсутнасцю бесстаронніх выбарчых камісій, выкарыстаннем адміністрацыйнага рэсурсу на карысць дзейнага Прэзідэнта, шматлікімі фактамі прымусу выбаршчыкаў да ўдзелу ў датэрміновым галасаванні, закрытасцю шэрагу выбарчых працэдураў для назіральнікаў.

Шматлікія скаргі назіральнікаў і выбаршчыкаў засталіся без належнай рэакцыі выбарчых камісій і пракуратуры.

**4. Смяротнае пакаранне**

Нягледзячы на жорсткую крытыку з боку нацыянальных і міжнародных арганізацый, у Беларусі захоўваецца заканадаўства, якое прадугледжвае смяротнае пакаранне ў якасці выключнай меры крымінальнага пакарання, а таксама практыка прывядзення прыгавораў у выкананне. Пакаранне адбываецца шляхам растрэлу ў дзень, пра які не паведамляюць ні асуджанаму, ні яго блізкім. Месца пахавання пакаранага застаецца ў таямніцы; сваякам для пахавання цела расстралянага не выдаецца, а высылаецца адзенне турэмнага ўзору, у якой той чакаў пакарання.

У студзені 2015 г. Вольга Грунова, маці расстралянага жыхара Гомеля Аляксандра Грунова, атрымала першыя адказы на запыты аб неабходнасці змены заканадаўства, якое забараняе сваякам хаваць целы пакараных смерцю. З ліста старшыні Пастаяннай камісіі па заканадаўстве і дзяржаўным будаўніцтве Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Ліліі Мароз стала вядома, што супярэчнасцяў нацыянальнага заканадаўства Канстытуцыі і Міжнароднаму Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах яна не бачыць.

Намеснік старшыні Вярхоўнага Суда В. Калінковіч не ўбачыў падставаў для ўнясення ў Канстытуцыйны Суд прапановы аб праверцы канстытуцыйнасці паднятага пытання.

У адказе старшыні Пастаяннай камісіі па заканадаўстве Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Людмілы Міхальковай адзначалася, што адмова ў выдачы цела для пахавання і непаведамленне аб месцы пахавання не могуць расцэньвацца як крымінальна-прававая санкцыя, якая прызначаецца па прысудзе суда. Нявыдача цела можа разглядацца як асобнае адміністрацыйна-прававое правапрымяняльнае рашэнне. У такіх выпадках адмова выступае як мера адміністрацыйнага характару, якая мае прэвентыўныя мэты і, у той жа час, з'яўляецца пэўным абмежаваннем правоў, гарантаваных Канстытуцыяй. І ў той жа час, дэпутат тлумачыць: пры выкананні смяротнага прысуду гэтая працэдура павінна ажыццяўляцца такім чынам, каб нанесці як мага менш пакутаў: “Відавочна, што тут маюцца на ўвазе пакуты не толькі самога асуджанага, але і іншых людзей”.

Адміністрацыя Прэзідэнта Беларусі таксама адмовілася ініцыяваць перад Канстытуцыйным судом пытанне аб змяненні заканадаўства, якое забараняе сваякам хаваць целы расстраляных: “Устаноўленае артыкулам 175 Крымінальна-выканаўчага кодэкса абмежаванне абумоўленае неабходнасцю забеспячэння грамадскага парадку і абароны маральнасці, паколькі інфармацыя пра месца пахавання асуджанага можа ў тым ліку справакаваць негатыўныя паводзіны з боку родных і блізкіх пацярпелых ад злачынства і іншых асобаў, а таксама пацягнуць іншыя эксцэсы”. Аналагічны адмову Вольга Грунова атрымала і з апарата Саўміна: “Інфармуем, што Прэзідыум Савета Міністраў прыняў рашэнне аб адмове ў задавальненні Вашай просьбы аб накіраванні ў Канстытуцыйны суд прапановы аб праверцы на адпаведнасць Канстытуцыі артыкула 175 Крымінальна-выканаўчага кодэкса”.

Не змагла дамагчыся Вольга Грунова вырашэння балючага для яе пытання і праз судовую сістэму. Напачатку лютага судовая калегія па грамадзянскіх справах Гомельскага абласнога суда адмовілася задаволіць яе прэтэнзіі, пакінуўшы ў сіле рашэнне суда Цэнтральнага раёна аб адмове ў распачынанні грамадзянскай справы супраць Гомельскага абласнога суда і Дэпартамента выканання пакаранняў, якія адмаўляюцца паведаміць месца пахавання яе расстралянага сына. Вольга Грунова накіравала наглядную скаргу на імя старшыні Гомельскага абласнога суда Сяргея Шаўцова і адначасова звярнулася з індывідуальнай скаргай у Камітэт па правах чалавека ААН з просьбай устанавіць факт жорсткага, бесчалавечнага і зневажальнага абыходжання з боку дзяржавы, а таксама рэкамендаваць ураду Беларусі прывесці нацыянальнае заканадаўства і практыку яго прымянення ў гэтай частцы ў адпаведнасць з міжнароднымі дамовамі краіны.

У лютым аналагічныя спробы ініцыяваць змяненне заканадаўства ў пытанні выдачы целаў расстраляных і паведамленні аб месцы іх пахавання распачала маці пакаранага смерцю Паўла Селюна – Тамара Сялюн. Яна таксама звярнулася ва ўпаўнаважаныя дзяржаўныя органы, якія маюць права звароту ў Канстытуцыйны суд, з прапановай аб змене закона ў частцы забароны на выдачу цела расстралянага і паведамленні пра месца яго пахавання. У адказе на яе зварот у Пастаянную камісію па заканадаўстве Палаты Прадстаўнікоў і Пастаянную камісію па заканадаўстве і дзяржаўным будаўніцтве Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь паказана, што падставаў для змены названай нормы закону няма і яна адпавядае Канстытуцыі і міжнародным абавязальніцтвам Беларусі.

18 сакавіка Гомельскім абласным судом быў вынесены смяротны прысуд 21-гадоваму Сяргею Іванову. Працэс праходзіў у закрытым рэжыме. Абвінавачаны беспаспяхова абскардзіў прысуд у касацыйным парадку ў Вярхоўным Судзе Рэспублікі Беларусь. Увечары 15 кастрычніка Камітэт па правах чалавека ААН (КПЧ) пацвердзіў рэгістрацыю звароту каардынатара кампаніі "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі" Андрэя Палуды, які з'яўляецца даверанай асобай асуджанага да смяротнага пакарання Сяргея Іванова. У паведамленні Камітэта ААН гаворыцца, што зварот зарэгістраваны ў КПЧ і накіраванае адпаведнае апавяшчэнне Дзяржаве, а таксама, што Камітэт просіць Дзяржаву не выконваць прысуд да моманту прыняцця рашэння па звароце.

У лістападзе 2015 каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» А. Палуда атрымаў адказ з Міністэрства замежных справаў на свой зварот, у якім інфармаваў МЗС аб рэгістрацыі індывідуальнага звароту асуджанага да смяротнага пакарання жыхара Рэчыцы Сяргея Іванова ў Камітэце па правах чалавека ААН. Праваабаронца нагадаў, што "ў адпаведнасці з пунктам 92 правілаў працэдуры Камітэта, дзяржава не павінна прыводзіць у выкананне смяротны прысуд да разгляду гэтага звароту Камітэтам па сутнасці". МЗС у сваім адказе паведамляе, што праінфармаваў Вярхоўны Суд, Генеральную Пракуратуру і Міністэрства ўнутраных справаў Рэспублікі Беларусь аб рэгістрацыі звароту С. Іванова ў КПЧ. Напярэдадні А. Палуда атрымаў адказы з Генеральнай пракуратуры і Міністэрства ўнутраных справаў. Яны пакінулі звароты без разгляду па сутнасці, спаслаўшыся на тое, што праваабаронца не прадставіў даверанасць на права прадстаўлення Сяргея Іванова ў дзяржаўных органах: даверанасць была складзеная, падпісанаяя С. Івановым, але не была перададзеная Дэпартаментам выканання пакаранняў МУС праваабаронцу. Таксама, А. Палуда выказаў надзею на тое, што пасля таго як МЗС праінфармаваў кампетэнтныя органы, міжнародныя правілы ў дачыненні да Сяргея Іванова будуць выкананыя, а менавіта тое, што смяротны прысуд не будзе прыведзены ў выкананне, пакуль адбываецца разгляд справы ў КПЧ ААН.

У траўні 2015 г. стала вядома, што Камітэт па правах чалавека ААН устанавіў парушэнне права на жыццё па індывідуальным звароце грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, жыхара Гродна Алега Грышкаўцова: 14 траўня 2010 года прысудам Гродзенскага абласнога суда А. Грышкаўцоў і А. Бурдыка былі прысуджаныя да смяротнага пакарання. 25 траўня 2011 года стала вядома, што прысуд у дачыненні да асуджаных быў прыведзены ў выкананне, нягледзячы на рэгістрацыю індывідуальнага звароту А. Грышкаўцова ў КПЧ ААН у 2010 г. і прынятыя Камітэтам меры тэрміновай абароны ў адпаведнасці з працэдурай №92, пра што былі апавешчаныя МЗС і іншыя дзяржаўныя органы. Гэта ўжо чацвёртае меркаванне, прынятае КПЧ ААН па індывідуальных зваротах грамадзянаў Беларусі, якое вызначыла парушэнне Беларуссю права на жыццё, а таксама права на справядлівае судовае разбіральніцтва, права на абарону і прымяненне катаванняў у дачыненні да тых, хто звярнуўся са скаргай.

З 5 па 10 кастрычніка 2015 г. у межах праваабарончага Тыдня супраць смяротнага пакарання ў Беларусі, а таксама ў Літве, Польшчы, Украіне і ў Казахстане прайшоў шэраг мерапрыемстваў. 9 кастрычніка ў Менску праваабаронцы правялі прэс-канферэнцыю, прымеркаваную да Сусветнага дня барацьбы супраць смяротнага пакарання.

20 лістапада 2015 г. Гродзенскі абласны суд вынес смяротны прысуд Івану Куляшу. Ён абвінавачваўся ў трох забойствах, крадзяжы і рабаванні. Дзяржаўнае абвінавачанне запатрабавала выключнай меры пакарання – расстрэлу. Судовы працэс па гэтай справе пачаўся 14 верасня. 28-гадовы Іван Кулеш – выхаванец дзіцячага дома, жыў без сям'і, скончыў ўсяго 9 класаў школы. У 18 гадоў быў асуджаны першы раз за крадзеж. У 2014 годзе яго абвінавачвалі ў ілжывым даносе і крадзяжы. Абаронца прасіў суд прызначыць абвінавачанаму пакаранне ў выглядзе 25 гадоў пазбаўлення волі, улічваючы, што Кулеш падпісаў яўку з павіннай і супрацоўнічаў са следствам.

Савет Еўропы заявіў аб глыбокім шкадаванні ў сувязі з вынесеным прысудам і заклікаў беларускія ўлады ўвесці мараторый на смяротнае пакаранне без усякага прамаруджання. Знешнепалітычная служба ЕС апублікавала заяву прэс-сакратара па смяротным пакаранні ў Беларусі, у якім выказала занепакоенасць з нагоды вынясення чарговага смяротнага прысуду ў Беларусі і нагадала уладам аб нялюдскасці гэтай меры пакарання. Amnesty International абвясціла тэрміновую акцыю супраць смяротнага прысуду Івану Куляшу: міжнародная праваабарончая арганізацыя распаўсюдзіла паведамленне, у якім заклікала дамагацца адмены смяротнага прысуду Івану Куляшу.

У снежні 2015 Камітэт па правах чалавека ААН апублікаваў рашэнне, прынятае па звароце Паўла Селюна, асуджанага да смяротнага пакарання ў Беларусі 12 чэрвеня 2013 года. Інтарэсы Селюна па даверанасці прадстаўляў каардынатар кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» Андрэй Палуда. Камітэт адзначае: права на жыццё ў адпаведнасці з артыкулам 6 Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, было парушана, паколькі аўтар быў прысуджаны да смяротнага пакарання ў выніку несправядлівага судовага разбіральніцтва.

Камітэт адзначае, што "дзяржава-удзельніца не прыняла да ўвагі просьбу Камітэта аб прыняцці часовых захадаў, прывёўшы ў выкананне смяротны прысуд, перш чым Камітэт завяршыў разгляд дадзенага паведамлення".

У снежні 2015 ПЦ «Вясна» атрымаў звесткі аб тым, што ў Менскім СІЗА №1 ўтрымліваецца грамадзянін Расіі Пётр Іванік, які быў прысуджаны да смяротнага пакарання ў Аб'яднаных Арабскіх Эміратах, і, паводле сваякоў, чакае экстрадыцыі для выканання прысуду ў ААЭ. Першы сакратар Консульства Расійскай Федэрацыі ў Беларусі пацвердзіў, што сапраўды такая сітуацыя мае месца, што да іх у консульства таксама звярталіся сваякі Пятра Іваніка. Ён запэўніў, што консульства будзе займацца гэтай справай і выказаў падзяку праваабаронцам за неабыякавую пазіцыю. Першы сакратар паабяцаў супрацоўніцтва з кампаніяй "Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі" па справе Іваніка.

Таксама, у снежні 2015 г. Камітэт па правах чалавека ААН зарэгістраваў індывідуальнае паведамленне Вольгі Груновай, маці расстралянага ў 2014 годзе гамяльчаніна Аляксандра Грунова, аб парушэнні яе права не падвяргацца жорсткаму, бесчалавечнаму абыходжанню. Ліст з КПЧ накіраваны на адрас беларускай дзяржавы для каментара па сутнасці.

**5. Парушэнне свабоды асацыяцыяў, ціск на праваабаронцаў**

На працягу 2015 года не адбылося ніякіх зменаў на ўзроўні заканадаўства альбо правапрымяняльнай практыцы ў галіне свабоды асацыяцыяў. Органы міністэрства юстыцыі, як і ў папярэднія гады, пры разглядзе пытання аб рэгістрацыі новастворaных грамадскіх арганізацый дэманстравалі палітычна матываваны выбарчы падыход.

Дзейнае нацыянальнае заканадаўства, якое рэгулюе пытанні стварэння і рэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў і палітычных партый, прадугледжвае магчымасць адмовы ў рэгістрацыі пры наяўнасці неістотных памылак, недакладнасцяў ва ўстаноўчых дакументах, якія носяць папраўны характар. Пры гэтым, прадастаўленне адтэрміноўкі рэгістрацыі для выпраўлення такіх недакладнасцяў і памылак з'яўляецца правам, а не абавязкам рэгіструючых органаў. На практыцы гэта прыводзіць да адмовах ў рэгістрацыі аб'яднанняў па падставах, ніякім чынам не звязаных з дапушчальнымі абмежаваннямі свабоды асацыяцыяў, усталяванымі арт. 5 Канстытуцыі Беларусі і арт. 21 Пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

На працягу 2015 былі зафіксаваныя шматлікія палітычна матываваныя адмовы ў рэгістрацыі грамадскіх арганізацый. Прычым, у шэрагу выпадкаў гэта былі далёка не першыя адмовы рэгіструючых органаў у дачыненні да гэтых арганізацый.

Так, у трэці раз было адмоўлена ў рэгістрацыі грамадскага аб'яднання «За справядлівыя выбары». Характэрна, што раней КПЧ ААН ужо прызнаваў адмову ў рэгістрацыі дадзенага аб'яднання парушэннем Рэспублікай Беларусь правоў заяўнікаў на свабоду асацыяцыяў, прадугледжаных арт. 21 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

14 жніўня Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь у пяты раз адмовіла ў рэгістрацыі Партыі «Беларуская Хрысціянская дэмакратыя». Варта нагадаць, што з 2000 года ў Беларусі не было зарэгістравана ніводнай новай палітычнай партыі.

Грамадская кампанія «Гавары праўду» ў чацвёрты раз атрымала адмову ў дзяржаўнай рэгістрацыі створанага грамадскага аб'яднання.

Міністэрства юстыцыі сцвярджае, што некаторыя дакументы, прадастаўленыя арганізацыяй, не адпавядаюць патрабаванням заканадаўства. Сярод іх – адсутнасць подпісу кіраўніка аб'яднання ў асобных дакументах. У кампаніі «Гавары праўду» лічаць, што парушэнні былі папраўнымі, а ў заканадаўстве сказана, што падставай для адмовы ў рэгістрацыі можа быць толькі непапраўнае парушэнне. Пры гэтым, рэгіструючы орган адмовіўся даць адтэрміноўку ў рэгістрацыі для ліквідацыі названых недахопаў ва ўстаноўчых дакументах.

1 снежня Галоўнае ўпраўленне юстыцыі Менгарвыканкама адмовіла ў дзяржаўнай рэгістрацыі культурна-асветніцкага грамадскага аб'яднання «Новая альтэрнатыва». Прычынай адмовы чыноўнікі назвалі неадпаведнасць назвы арганізацыі названым у яе статуце мэтам і задачам.

Акрамя гэтага, істотнай перашкодай для рэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў з'яўляецца неабходнасць наяўнасці юрыдычнага адрасу арганізацыі ў памяшканні нежылога фонду. У шэрагу выпадкаў страта па якіх-небудзь прычынах такога адрасу ўяўляла пагрозу ліквідацыі аб'яднанняў у судовым парадку.

Так, на мяжы закрыцця апынуўся «Магілёўскі праваабарончы цэнтр» (МПЦ) – адзіная ў Беларусі зарэгістраваная рэгіянальная праваабарончая арганізацыя. З 10 па 17 сакавіка ў Магілёўскім абласным судзе праходзіў разгляд пазова Галоўнага ўпраўлення юстыцыі Магілёўскага аблвыканкама аб ліквідацыі МПЦ. Падставай для падачы пазову сталі праблемы з юрыдычным адрасам арганізацыі. Як было паказана ў пазове, МПЦ, ажыццяўляючы дзейнасць, парушыў заканадаўства – не прадаставіў ва ўпраўленне юстыцыі дакументы, неабходныя для дзяржаўнай рэгістрацыі зменаў юрыдычнага адрасу, якія ўнесеныя ў Статут арганізацыі. Як сцвярджалася ў пазове, МПЦ з 5 снежня 2014 г. не размяшчаўся па адрасе, які пазначаны ў яго Статуце, паколькі дамова арэнды была скасаваная арэндадаўцам “ў аднабаковым парадку”. Такім чынам, МПЦ фактычна з 5 снежня 2014 г. не меў памяшкання для размяшчэння кіруючага органа, а ў Галоўнае ўпраўленне юстыцыі не былі прадстаўленыя дакументы, неабходныя для рэгістрацыі новага адраса. У канцы 2014 г. абласное Упраўленне юстыцыі ўжо спрабавала прыпыніць дзейнасць арганізацыі ў судовым парадку, але праваабаронцам тады ўдалося вырашыць праблему: яны заключылі дамову арэнды, якая была неўзабаве разарваная арэндадаўцам. Кіраўнік МПЦ Уладзімір Краўчанка ўпэўнены, што ўсе ўласнікі памяшканняў, якія скасавалі дамову арэнды ў аднабаковым парадку, зрабілі гэта незаконна, пад ціскам мясцовай улады. Ужо падчас судовага працэсу ён змог атрымаць гарантыйны ліст ад новага арэндадаўца на згоду даць арганізацыі юрыдычны адрас для ўнясення змяненняў у статутныя дакументы арганізацыі, а таксама новую дамову аб арэндзе. Гэта стала падставай для прыпынення разгляду справы аб ліквідацыі арганізацыі па ўзаемнай дамове бакоў. У выніку, справа была спыненая ў сувязі з тым, што пазоў быў адкліканы абласным Упраўленнем юстыцыі.

На працягу года быў зафіксаваны адзін выпадак вынясення афіцыйнага папярэджання аб крымінальнай адказнасці па арт. 193.1 КК (“незаконная арганізацыя дзейнасці грамадскага аб'яднання, рэлігійнай арганізацыі або фонду альбо ўдзел у іх дзейнасці”). 26 чэрвеня ў доме

пастара рэлігійнай абшчыны “Царква божая «Праабражэнне»” Сяргея Нікалаенкі супрацоўнікамі міліцыі быў праведзены агляд памяшкання, які, па іх словах, ажыццяўляўся ў межах папярэдняга расследавання крымінальнай справы па арт. 193.1 КК. У ліпені Гомельская гарадская пракуратура вынесла пастару афіцыйнае пракурорскае папярэджанне аб недапушчальнасці ажыццяўлення дзейнасці ад імя незарэгістраванай рэлігійнай арганізацыі.

Крыміналізацыя дзейнасці незарэгістраваных аб'яднанняў застаецца адным з самых сур'ёзных абмежаванняў свабоды асацыяцыяў у краіне.

Таксама, актуальнай праблемай для функцыянавання некамерцыйных арганізацый з'яўляецца магчымасць доступу да замежнай бязвыплатнай дапамогі.

2 верасня 2015 г. А. Лукашэнка падпісаў Дэкрэт №5 «Аб замежнай бязвыплатнай дапамозе», які зацвердзіў новае Палажэнне аб парадку атрымання, уліку і рэгістрацыі замежнай бязвыплатнай дапамогі, кантролю за яе атрыманнем і мэтавым выкарыстаннем, а таксама рэгістрацыі гуманітарных праграмаў. Дадзены Дэкрэт не змяніў парадак атрымання замежнай дапамогі для арганізацый грамадзянскай супольнасці – такую дапамогу, як і раней, неабходна рэгістраваць у Дэпартаменце па гуманітарнай дзейнасці Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта. Выкарыстанне замежнай дапамогі без такой рэгістрацыі або без атрымання дазволу на выкарыстанне складае адміністрацыйнага правапарушэння, а паўторнае парушэнне на працягу года цягне крымінальнае пакаранне. Таксама, у новым Дэкрэце, як і раней, сярод мэтаў расходавання такой дапамогі няма праваабарончай дзейнасці як такой. Усе “іншыя” мэты расходавання дапамогі магчымыя толькі па ўзгадненні з Кіраўніцтвам справамі Прэзідэнта, альбо з самім Прэзідэнтам (на сумы, большыя за 500 базавых велічынь на дату іх паступлення).

На працягу года былі зафіксаваныя факты аказання ціску і пераследу грамадзянаў, якія займаюцца актыўнай праваабарончай дзейнасцю.

У студзені 2015 года праваабаронца, кіраўніца Цэнтра прававой трансфармацыі Lawtrend Алена Танкачова спрабавала ў судовым парадку аспрэчыць рашэнне РУУС Першамайскага раёна Менска ад 5 лістапада 2014 г. аб высылцы яе з Беларусі і забароне на ўезд у краіну на тры гады. Судовае разбіральніцтва працягвалася тры дні, і, у выніку, 13 студзеня суддзя суда Першамайскага раёна Наталля Петух прыняла рашэнне адмовіць праваабаронцы ў задавальненні скаргі. Падставамі для рашэння аб высылцы праваабаронцы сталі факты нязначнага перавышэння хуткасці аўтамабілем Танкачовай, зафіксаваныя відэакамерамі.

22 студзеня Алена Танкачова падала касацыйную скаргу ў судовую калегію па грамадзянскіх справах суда горада Менска на рашэнне аб яе высылцы з краіны. Яе тэрмін знаходжання ў Беларусі быў прадоўжаны да 21 лютага. Аднак касацыйная скарга не была задаволеная і Алена Танкачова вымушана была пакінуць Беларусь. Варта нагадаць, што грамадзянка Расіі Алена Танкачова пражывала ў Беларусі каля 30 гадоў. На працягу 20 гадоў Танкачова і узначалены ёю Цэнтр прававой трансфармацыі аказвалі прафесійную юрыдычную і экспертную падтрымку некамерцыйным арганізацыям Беларусі, а таксама ў сітуацыях з парушэннямі правоў чалавека. Беларускія праваабаронцы расцанілі высылку сваёй калегі як пераслед за яе прынцыповую пазіцыю ў пытаннях ацэнкі сітуацыі з правамі чалавека ў краіне і выступілі з патрабаваннем аб зняцці забароны на ўезд Алены Танкачовай у Беларусь.

8 красавіка ў памяшканні грамадска-палітычнага цэнтра ў г. Гомелі, дзе знаходзяцца офісы некалькіх грамадскіх аб'яднанняў, быў праведзеныператрус, канфіскаваныя чатыры сістэмныя блокі.Ператрус праведзены таксама і ў кватэры праваабаронцы Леаніда Судаленкі, канфіскаваныя сістэмны блок кампутара і ноўтбук. Фармальнай падставай дляператрусу стаў нібыта распаўсюджаны з IP-адраса цэнтра ролік парнаграфічнага зместу.

Па факце распаўсюджвання парнаграфічных матэрыялаў з электроннага паштовага адрасу Леаніда Судаленкі, кантроль над якім ён страціў яшчэ ў снежні 2014 года, распачатая крымінальная справа. Судаленка заявіў, што гэта правакацыя, накіраваная на стварэнне перашкодаў у яго праваабарончай дзейнасці. У выніку, крымінальная справа была спыненая, аднак ціск на Л. Судаленку з боку іншых дзяржаўных органаў працягваўся практычна на працягу ўсяго года.

24 траўня на літоўска-беларускай мяжы ў пункце пропуску «Каменны лог» у дачыненні да праваабаронцы Леаніда Судаленкі была праведзеная аперацыя мытнага кантролю ў выглядзе асабістага дагляду, а таксама надгляду рэчаў і аўтамабіля. Мытнікамі быў канфіскаваны ноўтбук Судаленкі “для праверкі”. Праваабаронца ў гэты дзень вяртаўся з Форуму некамерцыйнага права, які праходзіў у Вільні 23-24 траўня.

25 жніўня Леанід Судаленка вяртаўся дадому на цягніку Вільня-Менск. На першай беларускай станцыі Гудагай прадстаўнікі памежнай службы пасля праверкі дакументаў паведамілі Л. Судаленку, што яму неабходна пакінуць цягнік на наступнай станцыі і прайсці з імі для праходжання аперацыі мытнага кантролю ў выглядзе асабістага дагляду. Пры гэтым, ніякіх тлумачэнняў прычынаў і падставаў для правядзення гэтага віду мытнага кантролю Л. Судаленку прадстаўлена не было.

Прыкладна ў 21.00 на станцыі Маладзечна Л. Судаленка з ужываннем фізічнай сілы быў вынесены з вагона цягніка, дастаўлены ў памяшканне пункта мытнага надгляду «Маладзечна» Менскай рэгіянальнай мытні, дзе ён быў падвергнуты асабістаму надгляду з складаннем адпаведнага пратакола. Нічога забароненага да перамяшчэння праз дзяржаўную мяжу або рэчаў, якія падлягаюць абавязковаму мытнаму дэклараванню, пры Судаленку і ў яго багажы выяўлена не было. Дадому ён вымушаны быў дабірацца на іншым цягніку, кошт праезду яму не кампенсавалі.

Таксама, працягвалі аказваць ціск на праваабаронцу і падатковыя органы па месцы жыхарства. Так, падатковая інспекцыя Гомельскага р-на вынесла на адрас Л. Судаленкі патрабаванне аб прадастаўленні дэкларацыі аб даходах і маёмасці пад грыфам “для службовага карыстання” за 10 гадоў. Раней Судаленка ўжо даваў справаздачу перад падатковай інспекцыяй аб сваіх даходах па 2012 год уключна. У сувязі з гэтым, праваабаронца звярнуўся ў суд Савецкага р-на Гомеля з патрабаваннем абавязаць падатковую інспекцыю Гомельскага р-на “рассакрэціць” інфармацыю пра тое, хто ж з'яўляецца ініцыятарам падатковай праверкі. 26 жніўня суд Савецкага р-на г. Гомеля адмовіў у задавальненні скаргі. Па выніках падатковай праверкі, у дачыненні да Л. Судаленкі была распачатая адміністрацыйная вытворчасць.

Пазней усе адміністрацыйныя справы ў дачыненні да праваабаронцы, пачатыя раней мытнымі і падатковымі органамі, былі спыненыя, а канфіскаваны мытнікамі ноўтбук быў вернуты ўладальніку.

У сакавіку 2015 г. у Магілёве былі канфіскаваныя кампутары ў галоўнага рэдактара інтэрнэт-выдання «НАШ Магілёў» Ігара Барысава – у межах праверкі па заяве аб прыцягненні да адказнасці аўтара аднаго з артыкулаў, апублікаваных названым выданнем. Тры камп’ютары былі канфіскаваныя і ў офісе мясцовых праваабаронцаў, які наведваў І. Барысаў. Усе камп’ютары падвергліся экспертызе, якая дазваляе ўстанавіць змест дакументаў на цвёрдым дыску. Пералік словаў, зададзеных для пошуку дакументаў, дазваляе сцвярджаць, што сапраўднай мэтай канфіскацыі кампутараў было атрыманне інфармацыі аб дзейнасці Праваабарончага цэнтра «Вясна».

**6. Абмежаванне свабоды сходаў, свабоды выказвання меркаванняў, свабоды сумлення**

На працягу 2015 года ў Беларусі захоўвалася практыка неабгрунтаванага абмежавання свабоды сходаў.

За выключэннем дазволаў на правядзенне некалькіх традыцыйных штогадовых масавых мерапрыемстваў (дэманстрацыя ў Дзень Волі, «Чарнобыльскі шлях», дэманстрацыі і мітынгі «Дзяды» у Менску), практычна паўсюдна было адмоўлена ў правядзенні мірных сходаў, заяўнікамі якіх выступалі прадстаўнікі палітычнай апазіцыі. Пададзеныя заяўкі не былі задаволеныя па фармальных ці надуманых прычынах. На працягу года ўлады не далі дазволаў на масавыя мерапрыемствы рознай тэматыкі – палітычнай, сацыяльнай, працоўнай, культурнай, што дае падставы сцвярджаць, што забарона любых публічных акцый з'яўляецца спосабам зніжэння грамадзянскай актыўнасці і абмежаваннем свабоды выказвання меркаванняў.

Сітуацыю па гэтым пытанні не мяняюць некалькі дазволеных адзіночных пікетаў у спецыяльна адведзеных для гэтага ўладамі бязлюдных месцах, якія знаходзяцца на ўскрайку гарадоў. У лютым 2015 г. стала вядома аб прынятых у некаторых рэгіёнах новых рашэннях мясцовых выканаўчых органаў адносна парадку правядзення масавых мерапрыемстваў, якія ў большасці тычыліся вызначэння новых месцаў для правядзення публічных акцый. Як правіла, новыя месцы сталі яшчэ больш неспрыяльнымі для прыцягнення ўвагі грамадскасці і адпаведных дзяржаўных органаў да праблемаў, якія імкнуцца падняць заяўнікі масавых мерапрыемстваў. Напрыклад, у Светлагорску вызначанае новае месца – "правая трыбуна стадыёна «Папернік» дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы №2". Акрамя таго, што стадыён агароджаны плотам, ва ўладаў з'явілася дадатковая прычына для адмоваў – правядзенне спартыўных спаборніцтваў. У Баранавічах гэта цалкам непрыстасаваная пляцоўка старога парку з боку вуліцы Міцкевіча, дзе амаль не ходзяць людзі і ідзе будоўля.

Адно дазволенае масавае мерапрыемства адбылося ў Капылі. Мясцовы актывіст Віктар Дашкевіч здолеў дамагчыся ад уладаў згоды на правядзенне пікета супраць парушэнняў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Гэта адбылося пры ўмове правядзення акцыі не на гарадской плошчы, а на бязлюдным стадыёне і аплаце паслугаў па абслугоўванню пікету ў суме 500 000 рублёў, што для пенсіянера – значныя выдаткі. Варта нагадаць, што, згодна з міжнародным стандартам, абавязак па забеспячэнні бяспекі падчас масавых мерапрыемстваў ускладаецца на дзяржаву.

Безумоўным абмежаваннем права на мірныя сходы з'яўляецца празмерна складаны і абцяжараны вялікімі матэрыяльнымі выдаткамі для заяўнікаў парадак атрымання дазволу, прадугледжаны Законам «Аб масавых мерапрыемствах»: пры падачы заявак на правядзенне масавых мерапрыемстваў ад арганізатараў патрабуецца заключэнне платных дамоваў на забеспячэнне грамадскага парадку, калі міліцыя за грошы арганізатараў прымае на сябе абавязкі ўжо ускладзеныя на яе адпаведным заканадаўствам; медыцынскае абслугоўванне, калі каля месца правядзення масавага мерапрыемства, нават калі гэта адзіночны пікет, дзяжурыць аўтамабіль "хуткай дапамогі"; прыборку тэрыторыі (незалежна ад меркаванай колькасці ўдзельнікаў). Кошт пералічаных паслугаў, напрыклад, пры правядзенні мерапрыемстваў на Дзень Волі ў г. Менску перавысіў 21 мільён рублёў. Адсутнасць такіх дамоваў – самая распаўсюджаная прычына адмоваў ў дазволе сходаў.

Некаторыя заяўнікі прынцыпова не заключаюць дамовы, мяркуючы, што не абавязаныя аплачваць дзейнасць службаў, што фінансуюцца з бюджэту: па гэтай прычыне было адмоўлена ў правядзенні ў Полацку рабочым прадпрыемства «Полацк-Шкловалакно» 12 лютага пікета для збору подпісаў пад зваротам да Прэзідэнта аб прыпыненні дзеяння Дэкрэта №5.

Адначасова, неаднаразова зафіксаваныя выпадкі адмоваў названых службаў ў заключэнні адпаведных дамоваў. Напрыклад, з-за іх адсутнасці былі забароненыя пікеты ў Гродне, заяўленыя сябрамі Аб'яднанай грамадзянскай партыі; не дазволеныя адразу тры пікеты ў лютым 2015 года, якія рыхтаваліся сябрамі КХП БНФ у Віцебску. Арганізатары збіраліся абмеркаваць з землякамі праблемы, звязаныя з сяброўствам Беларусі ў Еўразійскім эканамічным саюзе. Па той жа прычыне там былі забароненыя мерапрыемствы на Дзень Волі і заяўка партыі КХП БНФ на правядзенне

шэсця да гадавіны Чарнобыльскай катастрофы. Брэсцкі гарвыканкам і Аршанскі райвыканкам у траўні адмовілі актывістам Аб'яднанай грамадзянскай партыі ў правядзенні пікетаў супраць прымусовай працы.

Пры абскарджанні адмоваў у правядзенні мірных сходаў суды ва ўсіх выпадках прымалі бок выканаўчай улады і адмаўлялі заяўнікам у задавальненні скаргаў. Абскарджанне рашэнняў судоў у касацыйным і наглядным парадку не давала вынікаў.

У той жа час, на міжнародным узроўні падобныя дзеянні неаднаразова трактаваліся як парушэнне правоў грамадзянаў Беларусі з боку дзяржавы. Камітэт па правах чалавека ААН працягваў рэкамендаваць беларускаму ўраду забяспечыць эфектыўныя сродкі прававой абароны ахвярам парушэнняў, уключаючы перагляд ўнутранага заканадаўства і меры па недапушчэнні здзяйснення аналагічных парушэнняў у будучыні.

Вось некаторыя з іх. 15 студзеня Камітэт па правах чалавека ААН апублікаваў рашэнне па звароце № 1987/2010, згодна з якім прызнанае парушэнне Рэспублікай Беларусь права на выказванне меркавання шляхам правядзення публічнай акцыі актывіста Анатоля Стамброўскага.

У снежні такое ж рашэнне прынята па паведамленні Тараса Сургана, дзе ўстаноўлена парушэнне Беларуссю права на свабоднае выказванне меркавання, прадугледжанага часткай 2 артыкула 19 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах.

КПЧ ўстанавіў парушэнне права Паўла Казлова і іншых на мірны сход: так расцэненая адмова ў дазволе на правядзенне пікета ў Брэсце.

У справе Яўгена Пугача Камітэт па правах чалавека ААН палічыў, што Рэспубліка Беларусь парушыла частку 2 артыкула 19 (свабода выказвання меркавання) і артыкул 21 (свабода мірных сходаў) Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Рэспубліка Беларусь павінна прадаставіць актывісту адэкватную кампенсацыю, а таксама прыняць меры па папярэджанні падобных парушэнняў у будучыні, уключаючы перагляд заканадаўства аб масавых мерапрыемствах.

У шосты раз у снежні 2015 г. ўстаноўленае Камітэтам парушэнне права на мірны сход і выказванне меркавання праваабаронцы Леаніда Судаленкі.

Ілля Дабратвор атрымаў паведамленне з Камітэта па правах чалавека ААН аб рэгістрацыі яго скаргі на парушэнне права актывіста на свабоду мірных сходаў і свабоду выказвання меркаванняў. Таксама, паведамленне аб рэгістрацыі паведамлення атрымалі праваабаронца Уладзімір Хільмановіч і распаўсюднік газеты «Віцебскі кур'ер» Міхаіл Жураўлёў.

Неабходна падкрэсліць выбарчы характар дзеянняў уладаў у сферы свабоды мірных сходаў: так, у сакавіку 2015 г. былі забароненыя публічныя акцыі ў Дзень Волі ў Гродне, Віцебску, Бярозе, Лідзе і іншых гарадах, мітынг у Кіеўскім скверы ў Менску, адначасова – дазволена дэманстрацыя ў Менску. Па такім жа прынцыпе забаранілі мерапрыемствы, прысвечаныя гадавіне Чарнобыльскай аварыі ў рэгіёнах, дазволіўшы шэсце ў г. Менску.

Нягледзячы на мірны характар масавых мерапрыемстваў і захаванне арганізатарамі і ўдзельнікамі высунутых патрабаванняў, улады не заўсёды ўстрымліваліся ад адвольных затрыманняў падчас і пасля мерапрыемстваў.

Грамадскія актывісты, якія праводзяць пікеты і мірныя сходы без атрымання адпаведных дазволаў уладаў, падвяргаюцца штрафам і арыштам. Некаторыя з іх – шматкроць.

У выніку правядзення 22 студзеня пікету каля помніка Тарасу Шаўчэнку ў Менску, удзельнікі атрымалі спагнання ў выглядзе арышту: Максім Вінярскі – 15 сутак, Алесь Макаеў – 15 сутак, Мікалай Колас – 10 сутак, Яўген Батура – 10 сутак, Вольга Нікалайчык – 5 сутак.

11 мая за арганізацыю і правядзенне несанкцыянаванага пікету да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты Леанід Кулакоў. За знаходжанне са сцягам і плакатам «Акупанты прэч» на Кургане Славы каля г. Менска актывісту быў прызначаны адміністрацыйны арышт тэрмінам на 7 сутак. На яго жа 12 траўня было накладзенае адміністрацыйнае спагнанне ў выглядзе штрафу ў памеры 5 400 000 рублёў за вывешаную расцяжку «Свабоду палітвязням». У чэрвені 2015 г. ён быў пакараны за пікет дзесяццю суткамі адміністрацыйнага арышту.

Вользе Нікалайчык за знаходжанне са сцягамі і плакатам «Акупанты прэч» на Кургане Славы быў прызначаны штраф у памеры 5 400 000 рублёў. Яна ж была адвольна прыцягнутая да адміністрацыйнай адказнасці па сфабрыкаваных міліцыяй матэрыялах за акцыю каля расійскай амбасады; на яе накладзенае спагнанне ў выглядзе 13 сутак арышту, але пастанова пасля было адменена Менскім гарадскім судом.

У перыяд распачатай у ліпені 2015 г. кампаніі па выбарах Прэзідэнта ў гарадах Беларусі сябрамі ініцыятыўных групаў па вылучэнні кандыдатаў у Прэзідэнты актыўна праводзіліся пікеты з мэтай збору подпісаў грамадзянаў. У сувязі з тым, што дадзеныя мерапрыемствы праводзіліся ў межах выбарчай кампаніі, парадак іх правядзення рэгуляваўся нормамі Выбарчага кодэкса, а не Закона Рэспублікі Беларусь «Аб масавых мерапрыемствах», г.зн. дадзеныя пікеты праводзіліся без дазволу мясцовых органаў улады, у месцах, не забароненых рашэннямі гэтых органаў. Пры гэтым некаторыя апазіцыйныя палітыкі праводзілі пікеты з лозунгамі сацыяльнага і палітычнага зместу, якія суправаджаліся ў шэрагу выпадкаў і зборам подпісаў. Так, у Менску была праведзеная цэлая серыя пікетаў, арганізаваных АГП і ініцыятыўнай групай па вылучэнні кандыдата ў Прэзідэнты Анатоля Лябедзькі з патрабаваннямі вызвалення палітвязняў і ў падтрымку журналістаў-фрылансераў і свабоды слова. 21 жніўня каля СІЗА №1 у Менску прайшла акцыя салідарнасці з арыштаванымі М. Пякарскім і В. Жаромскім. У акцыі прынялі ўдзел каля 20 чалавек. Таксама 21 жніўня ў апошні дзень збору подпісаў за вылучэнне кандыдата ў Прэзідэнты Таццяны Караткевіч актывістамі Партыі БНФ і грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду» у г. Менску быў праведзены пікет пад назвай «Праспект нацыянальнага сцяга-2015». Каля 40 чалавек, якія трымалі ў руках беларускія нацыянальныя бел-чырвона-белыя сцягі, паспрабавалі расцягнуцца ад пл. Свабоды ўздоўж пр. Пераможцаў. Аднак, супрацоўнікі МУС у цывільным не дазволілі ім гэтага зрабіць. Ніякіх затрыманняў удзельнікаў пікета супрацоўнікамі міліцыі не здзяйснялася.

Варта адзначыць, што ўсе дадзеныя масавыя мерапрыемствы прайшлі практычна без ўмяшання органаў міліцыі, насілі выключна мірны характар і не ўяўлялі пагрозу грамадскаму парадку і бяспецы. Такім чынам, пачаўся перыяд ажыццяўлення палітыкі “мяккіх практык”, калі міліцыя альбо не ўмешвалася ў правядзенне масавых мерапрыемстваў, альбо выкарыстоўвала прадастаўленае адміністрацыйным заканадаўствам права складаць пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні на месцы, без затрымання і дастаўлення ўдзельнікаў мерапрыемства ў памяшканні органаў унутраных справаў. Самі мірныя сходы пры гэтым працягваліся.

Так, у дачыненні да апазіцыйнага палітыка Мікалая Статкевіча 10 верасня ў час правядзення пікета ў цэнтры г. Менска быў складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні па арт. 23.34 КаАП; сам пікет пры гэтым працягваўся. 22 верасня судом ён аштрафаваны на 7 200 000 беларускіх рублёў. Таксама, прыцягнуты да адказнасці і Уладзімір Някляеў, які прыняў удзел у гэтым пікеце. Старшыня партыі АГП Анатоль Лябедзька і іншыя грамадскія актывісты правялі пікет у Менску з нагоды гадавіны гвалтоўнага знікнення В. Ганчара і А. Красоўскага. У дачыненні да арганізатараў

пікета А. Лябедзькі і М. Казлова складзеныя пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні, чым парушаныя іх правы на мірны сход.

23 верасня ў Менску прайшло масавае мерапрыемства, прысвечанае абмеркаванню вынікаў дзейнасці Аляксандра Лукашэнкі. На арганізатараў пікету Мікалая Статкевіча, Уладзіміра Някляева і Анатоля Лябедзьку складзеныя пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні; пікет пры гэтым працягваўся. 30 верасня А. Лябедзька судом Цэнтральнага раёна аштрафаваны за два пікеты на 7 200 000 беларускіх рублёў. Мікалай Казлоў – на 5 400 000 беларускіх рублёў. Уладзімір Някляеў і Мікалай Статкевіч завочна аштрафаваныя на 5 400 000 і 9 000 000 беларускіх рублёў.

На працягу кастрычніка ў Менску прайшоў шэраг масавых мерапрыемстваў, арганізаваных прадстаўнікамі апазіцыйных партый і рухаў, а таксама актывістамі апазіцыі. Так, мірныя сходы грамадзянаў у цэнтры сталіцы прайшлі 4, 10 і 11 кастрычніка – у перыяд правядзення выбараў Прэзідэнта і непасрэдна пасля іх завяршэння. Усе сходы насілі выключна мірны характар, не парушалі грамадскі парадак і не ўяўлялі пагрозу грамадскай і нацыянальнай бяспецы, у сувязі з чым не мелі патрэбу ў якім-небудзь умяшанні з боку органаў аховы правапарадку, хоць і праводзіліся без адпаведнай санкцыі Менгарвыканкама. Нягледзячы на гэта, шэраг арганізатараў і ўдзельнікаў дадзеных сходаў былі пасля прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці і падвергнутыя спагнанням у выглядзе штрафаў. У той жа час, варта адзначыць, што ўлады не перашкаджалі правядзенню саміх сходаў, не перапынялі іх правядзенне, не затрымлівалі іх удзельнікаў і арганізатараў непасрэдна падчас правядзення альбо пасля іх завяршэння.

11 кастрычніка пасля завяршэння выбараў Прэзідэнта некалькі сотняў грамадзянаў выйшлі на дэманстрацыю пратэсту на Кастрычніцкую плошчу ў г. Менску і прайшлі шэсцем да пл. Незалежнасці. У цэлым дэманстрацыя і шэсце прайшлі мірна і без прымянення сілы з боку міліцыі, але некалькі ўдзельнікаў былі затрыманыя і пазней вызваленыя. Пасля правядзення мерапрыемства некаторыя ўдзельнікі былі выкліканыя позвамі ў аддзелы міліцыі, дзе з імі былі праведзеныя прафілактычныя гутаркі.

29 кастрычніка адбылася акцыя ля будынкаў КДБ і МУС на праспекце Незалежнасці ў г. Менску ў памяць пра дзеячаў культуры, якія былі расстраляныя ў ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года ў будынку НКУС у Менску. Сход быў праведзены без перашкодаў з боку супрацоўнікаў міліцыі, аднак у дачыненні да арганізатараў былі складзеныя пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні. За ўдзел у мерапрыемстве лідэр апазіцыйнай партыі АГП Анатоль Лябедзька быў падвергнуты штрафу.

У лістападзе Свіслацкі раённы суд аштрафаваў грамадскіх актывістаў Юрася Глебіка, Віктара Сазонава, Эдварда Дмухоўскага, Уладзіміра Хільмановіча, Віталя Гуляка за ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу і шэсці ў памяць паўстанцаў 1863 года ў Свіслачы і Якушоўцы 31 кастрычніка 2015 г. Усяго міліцыяй было складзена 40 пратаколаў на ўдзельнікаў акцыі. За папярэднюю акцыю ў 2014 годзе да адказнасці былі прыцягнуты 14 чалавек.

Грамадскага дзеяча Вячаслава Сіўчыка оштрафовалі на 10 мільёнаў 800 тысяч рублёў за брыдкаслоўе і ўдзел у несанкцыянаванай акцыі – мітынгу супраць расійскай ваеннай базы на плошчы Свабоды ў г. Менску. Брыдкаслоўе суд ўбачыў у тым, што Вячаслаў Сіўчык у адрас расейскага Прэзідэнта Уладзіміра Пуціна сказаў: “Хутин Пуйло”.

24 лістапада 2015 г. у цэнтры Менска прайшоў несанкцыянаваны сход, арганізаваны апазіцыйным дзеячам Мікалаем Статкевічам. Акцыя была прымеркаваная да гадавіны рэферэндуму 1996 года. У дачыненні як мінімум 12 чалавек былі складзеныя пратаколы аб адміністрацыйным правапарушэнні. Сярод іх таксама апынуліся назіральнікі ад Праваабарончага цэнтра «Вясна» і РПГА «Беларускі Хельсінкскі камітэт» Наталля Сацукевіч і Сяргей Каспяровіч. Тым самым супрацоўнікі міліцыі прыраўнялі ажыццяўленне маніторынгу свабоды сходаў да ўдзелу ў акцыі.

Таксама, пратаколы па аналагічным артыкуле былі складзеныя ў дачыненні да журналістаў Дзмітрыя Галко («Новы час»), Галіны Абакунчык («Радыё Свабода»), Кацярыны Андрэевай («Народная Воля»). Пазней прэс-сакратар ГУУС Менгарвыканкама Аляксандр Ластоўскі паведаміў, што адміністрацыйныя справы ў дачыненні да журналістаў былі спыненыя. У той жа час, на думку супрацоўнікаў міліцыі, назіральнікі праваабарончых арганізацый, якія ажыццяўлялі маніторынг правядзення сходу, не мелі права прысутнічаць у месцы яго правядзення і з'яўляюцца ўдзельнікамі несанкцыянаванага сходу. У сувязі з дадзеным фактам праследу, праваабаронцы праінфармавалі шэраг спецдакладчыкаў ААН і АБСЕ. 7 снежня суддзя накіраваў справы двух назіральнікаў – Наталлі Сацукевіч і Сяргея Каспяровіча – на дапрацоўку. У гэты ж дзень былі прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ўдзельнікі названага мерапрыемства: Антон Жылко і Станіслаў Паўлінкевіч. Справы ўдзельнікаў акцыі Паўла Севярынца, Андрэя Давідовіча і Максіма Вінярскага былі накіраваныя на дапрацоўку.

2 снежня ў Менску адбыўся «Марш студэнтаў», мэтай якога было прыцягненне ўвагі да праблемаў студэнцкага самакіравання, акадэмічных свабодаў і іншых важных праблемаў вышэйшай адукацыі. Мерапрыемства не спынялася супрацоўнікамі міліцыі, нягледзячы на тое што дазвол на яго правядзенне ва ўстаноўленым парадку не атрымліваўся. Аднак 23 снежня удзельнік Марша Павел Сяргей быў пакараны за ўдзел у масавым мерапрыемстве штрафам у памеры 4 500 000 рублёў. 30 снежня быў аштрафаваны на 3 240 000 рублёў іншы ўдзельнік Марша – Глеб Вайкуль. На пачатку студзеня аштрафаваны Максім Вінярскі.

10 снежня, у дзень прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, у цэнтры Менска валанцёры і праваабаронцы ПЦ «Вясна» віншавалі жыхароў сталіцы з Днём правоў чалавека і раздавалі тэксты Дэкларацыі, а таксама інфармацыйныя буклеты, прысвечаныя праблеме смяротнага пакарання ў Беларусі. У гэты ж дзень актывісты грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» правялі ў цэнтры Менска пікет, накіраваны на адмену смяротнага пакарання. Удзельнікі акцыі зрабілі спецыяльны плакат з заклікам да грамадства выступіць супраць смяротнага пакарання, якое парушае права на жыццё, замацаванае ва Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. За ўдзел у гэтай акцыі Леанід Кулакоў судом пакараны штрафам.

Такім чынам, нягледзячы на адсутнасць на працягу некалькіх месяцаў выпадкаў сілавых разгонаў мірных сходаў і пікетаў, а таксама пакаранняў іх удзельнікаў арыштам, яшчэ рана казаць пра змены ў палітыцы ўладаў у галіне выканання права на свабоду сходаў.

У мінулым годзе ў Беларусі працягнулася практыка абмежавання свабоды выказвання меркаванняў і свабоды сумлення.

15 чэрвеня 2015 года Міністэрства інфармацыі Беларусі абмежавала доступ да сайта kyky.org "з прычыны размяшчэння інфармацыі, распаўсюджванне якой здольна нанесці шкоду нацыянальным інтарэсам Рэспублікі Беларусь". На думку Міністэрства, "у шэрагу публікацый, размешчаных на гэтым інфармацыйным рэсурсе, утрымліваюцца прыніжальныя выказванні ў дачыненні да дзяржаўнага свята Рэспублікі Беларусь – Дня Перамогі, грамадзянаў краіны, якія ў ім удзельнічаюць, аспрэчваецца значнасць гэтай падзеі ў гісторыі дзяржавы, тым самым скажаецца гістарычная праўда аб Вялікай айчыннай вайне...".

Упраўленне ідэалагічнай работы Менгарвыканкама не выдала гастрольнае пасведчанне на выступ вядомага беларускага выканаўцы Змітра Вайцюшкевіча, гэта значыць, фактычна забараніла канцэрт, які планаваўся на 22 ліпеня. Прычынай такога рашэння сталі высновы аб тым, што дзейнасць выканаўцы парушае заканадаўства. Якія менавіта парушэнні ставяць у віну Вайцюшкевічу, невядома: у дакуменце дадзена спасылка на артыкул нарматыўнага акту, якая прадугледжвае шырокі спектр парушэнняў, у тым ліку ажыццяўленне прапаганды вайны ці экстрэмісцкай дзейнасці.

Паслядоўнікі Міжнароднага таварыства свядомасці Крышны былі затрыманыя ў Віцебску за распаўсюд літаратуры рэлігійна-філасофскага ўтрымання больш чым на пяць гадзінаў без афармлення працэсуальных дакументаў.

19 чэрвеня пастар пратэстанцкай царквы «Праабражэнне» Сяргей Нікалаенка пакараны штрафам у памеры 20 базавых велічынь за тое, што праводзіў набажэнства зарэгістраванай рэлігійнай арганізацыі не па месцы яе рэгістрацыі. Ён жа прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці за правядзенне несанкцыянаванага рэлігійнага сходу ў жніўні.

**7. Абмежаванні свабоды слова і права на распаўсюд інфармацыі, пераслед журналістаў**

У 2015 годзе захоўваліся сур'ёзныя абмежаванні ў сферы свабоды выказвання меркаванняў і ціск на незалежных журналістаў і СМІ. Наяўнасць сістэмных праблемаў у галіне свабоды слова ў Беларусі і адсутнасць палітычнай волі да іх вырашэння знайшло сваё адлюстраванне ў рэйтынгу міжнароднай арганізацыі «Рэпарцёры без межаў», які вымярае ўзровень свабоды распаўсюду інфармацыі ў 180 краінах па цэлым шэрагу крытэраў, якія ўключаюць у сябе плюралізм СМІ і іх незалежнасць, павага да бяспекі і свабодзе журналістаў, стан заканадаўчай, інстытуцыйнага і інфраструктурнага асяроддзя, у якім працуюць журналісты. Беларусь у гэтым рэйтынгу – на 157 месцы, як і ў 2014 годзе.

Ужо ў студзені 2015 г. зафіксаваныя факты прыцягнення да адміністрацыйнай адказнасці журналістаў, якія асвятлялі грамадска-значныя падзеі: іх дзеянні былі расцэненыя як удзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. Так, згодна з пастановай суда Светлагорскага раёна ад 23 студзеня, гомельскія журналісты Ларыса Шчыракова і Кастусь Жукоўскі былі прызнаныя парушальнікамі ч. 1 арт. 23.34 КаАП (“парушэнне парадку арганізацыі або правядзення масавага мерапрыемства”) і аштрафаваныя. Журналісты здымалі на відэакамеру пікет грамадскага актывіста. Суд прыйшоў да высновы, што журналісты загадзя ведалі пра пікет і “наўмысна аказалі Юрыю Ляшэнку садзейнічанне, забяспечылі відэафіксацыю пікетавання, сумесна знаходзіліся ў забароненым для пікетавання месцы”.

На працягу года неаднаразова караліся буйнымі штрафамі журналісты, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ, што працуюць для беларускай аўдыторыі: Беларуская асацыяцыя журналістаў за 2015 зафіксавала 28 выпадкаў прыцягнення фрылансераў да адміністрацыйнай адказнасці, агульная сума штрафаў склала больш за 146 мільёнаў рублёў. За супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі былі неаднаразова пакараныя Т. Шчапёткіна, А. Літвінчук, К. Жукоўскі, Н. Крывашэй, А. Кіркевіч, А. Дзянісаў. Аштрафаваныя таксама Т. Смоткіна, А. Ляўчук, Дз. Лупач, В. Чайчыц, С. Краўчук, І. Хоміч, Л. Шчыракова. Варта адзначыць, што беларускае заканадаўства не прадугледжвае адказнасці за гэта, аднак улады адвольна выкарыстоўваюць норму КаАП, якая прадугледжвае адказнасць за незаконны выраб і распаўсюд прадукцыі СМІ. Гэта юрыдычна заганная практыка, паколькі журналісты прадукцыю СМІ не вырабляюць і не распаўсюджваюць – гэтым займаюцца рэдакцыі СМІ.

Штрафы – не адзіная форма ціску на незалежных журналістаў. У ліпені 2015 года з'явілася інфармацыя аб тым, што супрацоўнікі КДБ аказвалі ціск на незалежнага журналіста з Глыбокага Дзмітрыя Лупача: пагражалі яму крымінальным і адміністрацыйным пераследам, прымушалі да супрацоўніцтва.

Пераслед журналістаў за працу без акрэдытацыі праходзіў на фоне адсутнасці магчымасці такую акрэдытацыю атрымаць. Гродзенскі журналіст В. Парфёненка сем разоў атрымліваў адмовы з МЗС Беларусі адносна атрымання пастаяннай акрэдытацыі ад «Беларускага Радыё Рацыя». Некалькі разоў журналіст пісаў скаргі і ў само міністэрства, і ва ўрад Беларусі, даказваючы, што яго пазбаўляюць права на прафесію. Але яго скаргі проста адмаўляліся прымаць да разгляду. Адмовіўся разглядаць справу В. Парфёненкі і суд Ленінскага раёна Менска, не прымаючы яго да

вытворчасці. Парфёненка не пагадзіўся з рашэннем суддзі і абскардзіў яго ў Менскім гарадскім судзе, які пакінуў вызначэнне ў сіле.

Дзяржаўныя органы фактычна адмовіліся высвятляць абставіны незаконнага блакавання шэрагу сайтаў у канцы снежня 2014 г. (belapan.com, belapan.by, naviny.by, belaruspartisan.org, udf.by, 21.by, gazetaby.com, zautra.by, charter97.org). На звароты ГА «БАЖ» у Генеральную пракуратуру РБ, а таксама ва Упраўленне МУС па раскрыцці злачынстваў у сферы высокіх тэхналогій (упраўленне «К») і Аператыўна-аналітычны цэнтр пры Прэзідэнце былі атрыманыя фармальныя адпіскі, якія не вырашаюць праблему па сутнасці.

25 лютага з'явілася распараджэнне за подпісам намесніка міністра ўнутраных справаў Мікалая Мельчанкі, згодна з якім асабістаму складу міліцыі дадзены загад арыентавацца на «выяўленне, затрыманне і дастаўку ва УУС асобаў, якія ажыццяўлялі фота- і відэаздымкі будынкаў дзяржаўных органаў, у тым ліку якія ажыццяўляюць праваахоўную дзейнасць, а таксама крытычна важных аб'ектаў», забяспячэнне іх «асабістага дагляду, апытання, праверкі па базах дадзеных МУС, а таксама пастаноўкі на дактыласкапічны, фота- і відэаўлік». Дакумент з'явіўся пасля таго, як у Лоеве 23 лютага быў затрыманы, а потым і асуджаны на 10 сутак адміністрацыйнага арышту грамадзянін Расіі – навуковы супрацоўнік Геалагічнага інстытута Расійскай АН Аляксей Калеснічэнка за фатаграфаванне будынкаў, сярод якіх апынуліся некалькі дзяржаўных установаў. Распараджэнне намесніка міністра, на думку экспертаў, з'яўляецца загадзя незаконным, паколькі ў ім утрымліваецца заклік да шараговых супрацоўнікаў здзяйсняць незаконныя затрыманні. Першым журналістам, які адчуў на сабе дзеянне новага абмежавальнага распараджэння, стаў фотакарэспандэнт «Комсомольской правды в Белоруссии» Дзмітрый Ласько, якога затрымалі 26 лютага на чатыры гадзіны за тое, што ён рабіў фотаздымкі новага асвятлення галоўнага корпуса Акадэміі навук. Пазней прэс-служба МУС патлумачыла, што праваахоўнікі маюць права ведаць пра мэты фатаграфавання адміністрацыйных будынкаў, але пра забарону на здымкі гаворка не ідзе, пры гэтым практыка затрыманняў некаторы час працягвалася.

26 лютага ўступіла ў сілу «Палажэнне аб парадку абмежавання доступу да інфармацыйных рэсурсаў (іх састаўных частках), размешчаных у глабальнай камп'ютарнай сетцы Інтэрнэт», распрацаванае Аператыўна-аналітычным цэнтрам пры Адміністрацыі Прэзідэнта і Мінсувязі па ўзгадненні з Мініінфармацыі. Медыяэксперты адзначылі, што відавочна рэпрэсіўны механізм абмежавання, які закладзены ў Палажэнні, ніяк не суадносіцца з прынцыпам свабоды выказвання меркавання, да таго ж ён дадзены ў рукі органам, якія не вылучаюцца павагай да гэтых базавым прынцыпаў.

У сакавіку Міністэрства інфармацыі вынесла шэраг папярэджанняў незалежным сродкам масавай інфармацыі. Ва ўсіх выпадках папярэджанні тычыліся дробных прыдзірак да выходных даных. Папярэджання аб парушэнні закона «Аб СМІ» былі вынесеныя «Газеце Слонімскай», «Intex-Press» у Баранавічах і «Ганцавіцкаму часу», «Борисовским новостям» і «Рекламному Боржоми» з Барысава, газеце «Новы час». Трывожным ў сітуацыі вынясення папярэджанняў СМІ з'яўляецца тое, што пасля атрымання двух папярэджанняў на працягу года любое СМІ можа быць закрыта праз суд.

У канцы сакавіка быў заблакаваны доступ да навінавых сайтаў «Хартыя-97» (charter97.org) і «Беларускі партызан» (belaruspartisan.org), сайта Праваабарончага цэнтра «Вясна» (spring96.org) пастаўшчыкамі інтэрнэт-паслугаў adsl.by (Белінфанэт), «Дзелавая сетка», Iptel.by, IP TelCom (Менск і Гомель), «Гарант» (Гомель). Гэтыя інтэрнэт-рэсурсы былі ўнесеныя ў спіс абмежаванага доступу для карыстальнікаў у дзяржаўных установах, установах адукацыі і культуры. Праз два дні пасля блакавання партал electroname.com са спасылкай на "крыніцы ў тэлекамунікацыйнай галіне Беларусі" паведаміў, што са спісу абмежаванага доступу выдаленыя ўсе сайты, унесеныя да 1 студзеня 2015 года, і іх блакіроўка павінна быць знятая на працягу сутак. Сайты, якія раней

знаходзіліся ў “чорным спісе”, з названай даты не павінны блакавацца. Паводле даных electroname.com, гэта тычыцца сайтаў «Хартыя-97» belaruspartisan.org, Праваабарончага цэнтра «Вясна», prokopovi.ch, europeanbelarus.org, блога Яўгена Ліпковіча і шэрагу іншых сайтаў, якія знаходзіліся ў спісе абмежаванага доступу па рашэнні Генеральнай пракуратуры Беларусі.

У траўні 2015 г. Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь звярнуўся ў Варшаўскі акруговы суд у мэтах выканання рашэння аб забароне выкарыстання таварнага знака тэлеканала «Белсат». Такія дзеянні ацэньваюцца як накіраваныя на стварэнне перашкодаў у дзейнасці адзінага незалежнага тэлеканала.

24 лістапада чыноўнікі з Міністэрства культуры загадалі арганізатарам прыбраць з выставы дзве працы Аляксея Марачкіна: «Дуэль, або Супраціў двухгаловаму мутанту» і «Маці Божая Нябеснай сотні», карціну Алеся Пушкіна «Памяці беларусаў, якія загінулі за Украіну», а таксама працу мастака Віктара Маркаўца. Пазней карціну «Маці Божая Нябеснай сотні» атрымалася адстаяць. Аднак на наступны дзень з экспазіцыі выставы па загадзе невядомых чыноўнікаў знялі яшчэ дзве карціны. Гэта праца Алеся Цыркунова, прысвечаная ўдзелу беларусаў у баях каля Монтэ-Касіна і карціна Уладзіміра Крукоўскага пад назвай «Што ж мы за людзі?». Дадзеныя факты з'яўляюцца праявай цэнзуры; у адпаведнасці з арт. 33 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, цэнзура ў краіне не дапушчальная.

**8. Ужыванне катаванняў і іншых відаў жорсткага і бесчалавечнага абыходжання**

У 2015 годзе стала вядома пра некалькі фактаў катаванняў, жорсткага, бесчалавечнага, зневажальнага абыходжання, забароненага міжнароднымі абавязальніцтвамі Беларусі. Таксама, зафіксаваныя выпадкі фактычнай адмовы ўладаў у належным расследаванні такіх выпадкаў.
З апублікаванага ў 2015 годзе МЗС Нацыянальнага даклада да ўніверсальнага перыядычнага агляда (другі цыкл) стала вядома, што ў 2014 годзе Дэпартаментам выканання пакаранняў МУС Рэспублікі Беларусь зарэгістравана і разгледжана 96 зваротаў грамадзянаў на неправамерныя дзеянні супрацоўнікаў органаў і ўстановаў крымінальна-выканаўчай сістэмы, лячэбна-працоўных прафілакторыяў МУС. Органамі пракуратуры ў 2011-2014 гадах разгледжана 158 скаргаў на меры ўздзеяння ў дачыненні да асуджаных, а таксама асобаў, якія ўтрымліваюцца пад вартай. Ніводная са скаргаў не задаволеная. Судамі Беларусі ў 2012-2014 гадах разгледжана 15 справаў па скаргах асуджаных да арышту, пазбаўлення волі, пажыццёвага зняволення асобаў, якія ўтрымліваюцца пад вартай, на прымяненне да іх мераў спагнання і па скаргах адміністрацыйна арыштаваных на прымяненне да іх відаў дысцыплінарных спагнанняў. Скаргі прызнаныя неабгрунтаванымі.

На працягу 2015 г. маці Ігара Пцічкіна, які памёр у СІЗА №1 у Менску 4 жніўня 2013 года, спрабавала дамагчыся належнага расследавання абставінаў яго гібелі і пакарання асобаў, вінаватых у смерці сына. Ігар Пцічкіна памёр у Менскім СІЗА ад спынення сэрца, але высновы экспертызаў пра прычыну смерці досыць супярэчлівыя. Сваякі Ігара Пцічкіна выказвалі меркаванне, што ён памёр ад збіцця ахоўнікамі, і адзначалі шматлікія траўмы на целе нябожчыка, якія былі зафіксаваныя на фотаздымках. Таксама неадназначная ацэнка дзеянняў медыка СІЗА, якія суправаджаліся парушэннямі.

Следчым Следчага камітэта Ж. Пцічкінай забаронена пад пагрозай крымінальнага пераследу выдаваць вядомыя ёй абставіны крымінальнай справы нават пасля вынясення пастановы аб спыненні крымінальнай справы. Неаднаразовыя скаргі Пцічкінай, накіраваныя з гэтай нагоды, засталіся без задавальнення. Пры гэтым, Следчы камітэт неаднаразова агучваў інфармацыю, якая ганіць І. Пцічкіна, і пазбавіў Ж. Пцічкіну магчымасці на падставе вядомых ёй матэрыялаў справы аспрэчыць дадзеныя заявы. Не можа Ж. Пцічкіна азнаёміць з ходам расследавання і журналістаў або іншых зацікаўленых асобаў, у тым ліку праваабаронцаў, каб надаць справе галоснасць і тым самым прымусіць следчыя органы правесці расследаванне якасна і бесстаронне.

Расследаванне справы адбывалася з парушэннямі агульнапрынятых стандартаў: у перыяд папярэдняга следства па крымінальнай справе службовыя асобы СІЗА №1 ад выканання службовых абавязкаў не адхіляліся.

Пастанова следчага аб спыненні крымінальнай справы была адмененая Генеральнай пракуратурай па скаргах пацярпелай Ж. Пцічкінай; доўгі час падставы такой адмены хаваліся ад Ж. Пцічкінай. Пасля правядзення дадатковай праверкі, якая таксама праходзіла ў закрытым рэжыме, была зноў вынесеная пастанова аб спыненні справы.

Пастаяннай мішэнню для жорсткага абыходжання для супрацоўнікаў органаў унутраных справаў сталі футбольныя заўзятары. Так 3 траўня ў г. Баранавічы супрацоўнікамі міліцыі былі жорстка збітыя з ужываннем спецсродкаў футбольныя фанаты, 56 з якіх былі затрыманыя і дастаўлены ў ГАУС. Там ад іх запатрабавалі напісаць заявы пра тое, што яны не маюць прэтэнзій да супрацоўнікаў міліцыі. Скарга праваабаронцы Сяргея Гоўшы пракуратурай была пакінутая без увагі і накіраваная для праверкі ў аддзел міліцыі, супрацоўнікі якога і парушылі закон. Наступнае абскарджанне дзеянняў супрацоўнікаў міліцыі не прынесла вынікаў.

Маці загінулага ў ізалятары часовага ўтрымання Светлагорскага РАУС Аляксандра Акуліча больш за тры гады працягвае настойваць на прыцягненні да адказнасці супрацоўнікаў міліцыі, якія замест аказання яе сыну медыцынскай дапамогі збівалі яго гумовымі палкамі, прышпіліўшы да жалезных дзвярэй-кратаў. У пачатку 2015 г. следчы вынес чарговую пастанову аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце гібелі А. Акуліча. Намеснік пракурора і пракурор Гомельскай вобласці не знайшлі ў гэтым парушэнняў. Увосень 2015 г. пастанова следчага была адмененая судом Светлагорскага раёна па скарзе В. Акуліч, аднак вынесеная зноў пасля непрацяглай фармальнай дадатковай праверкі. На дадзены момант усе эфектыўныя сродкі аднаўлення правоў пацярпелай ўнутры дзяржавы вычарпаныя.

Асуджаны да пазбаўлення волі Пётр Кучура і яго жонка Людміла Кучура працягвалі дамагацца належнага расследавання і прыцягнення да адказнасці службовых асобаў калоніі, вінаватых у жорсткім абыходжанні з асуджаным: асуджанага змясцілі ў камеру, дзе сантэхніка была засыпаная хлоркай, якая пры кантакце з вадой выдзяляла едкі газ. Службовыя асобы пракуратуры і Следчага камітэта не ўгледзелі парушэнняў у дзеяннях супрацоўнікаў Следчага камітэта, не правялі своечасова праверку па заяве жонкі асуджанага ў сувязі з ужываннем да яго забароненага жорсткага абыходжання, у сувязі з чым экспертная канстатацыя прычынення шкоды здароўю зняволенага з заканчэннем часу стала немагчымай.

У ліпені 2015 г. стала вядома аб тым, што палітвязень Мікалай Дзядок утрымліваецца ў памяшканні камернага тыпу, куды яго перавялі тэрмінам на 6 месяцаў, у камеры памерам 5 кв. метраў з яшчэ адным зняволеным. Такія памеры камеры, хоць і адпавядаюць нацыянальным нормам, але для зняволенага, які знаходзіцца там практычна кругласутачна, гэта з'яўляецца формай жорсткага абыходжання.

У жніўні 2013 В. Касінераў, якога затрымалі па падазрэнні ў дачыненні да нанясення графіці, у выніку непрапарцыйнага прымянення фізічнай сілы супрацоўнікамі міліцыі атрымаў цялесныя пашкоджанні, у сувязі з чым быў шпіталізаваны.

Я. Ульяненкаў, які атрымаў цялесныя пашкоджанні пры тых жа абставінах, звярнуўся з адпаведнай заявай у Следчы камітэт з патрабаваннем прыцягнуць супрацоўнікаў міліцыі да адказнасці. Па выніках праверкі яму адмовілі ва ўзбуджэнні крымінальнай справы.

Абвінавачаны па той жа справе М. Пякарскі распавёў аб жорсткім затрыманні яго і іншых фігурантаў справы супрацоўнікамі міліцыі: затрыманым наносілі ўдары, у тым ліку, электрашокерам; аказвалі псіхалагічны ціск; груба парушалі працэсуальныя правы. Акрамя таго,

супрацоўнікі АУС аказвалі псіхалагічны ціск на іх родных, у тым ліку на будучую жонку Я. Ульяненкава, якая знаходзілася на позні́м тэрміне цяжарнасці.

У лістападзе 2015 г. Вячаслаў Касінераў атрымаў паведамленне аб узбуджэнні крымінальнай справы па факце нанясення яму менш цяжкага цялеснага пашкоджання пры жорсткім затрыманні яго супрацоўнікамі САХР (спецыяльнага атрада хуткага рэагавання ўнутраных войскаў МУС Беларусі) 11 жніўня гэтага года. Расследаванне праводзіць ўпраўленне Следчага камітэта па г. Менску. Звяртае на сябе ўвагу той факт, што крымінальная справа распачатая не па прыкметах службовага злачынства, г.зн. праігнараваны той факт, што затрыманага збіў супрацоўнік міліцыі пры выкананні сваіх службовых абавязкаў.

Грамадскі рэзананс выклікаў выпадак прымянення жорсткасці пры затрыманні жыхара Менска, які, знаходзячыся ў падземным пераходзе, збіраў ахвяраванні мінакоў. За супраціў і гвалт у дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі грамадзянін быў затрыманы і падвергнуты крымінальнаму пераследу. Аднак замест аб'ектыўнага расследавання як непрафесійных і жорсткіх дзеянняў супрацоўнікаў міліцыі, так і прычын, якія заахвоцілі названага грамадзяніна аказаць ім супраціў, Следчы камітэт і МУС засяродзіліся на стварэнні негатыўнай рэпутацыі затрыманага і адмовіліся прызнаць парушэнні закона супрацоўнікамі міліцыі.

Блогер Віктар Нікіценка, які супрацоўнічае з многімі незалежнымі СМІ, 13 кастрычніка быў затрыманы ў Менску супрацоўнікамі сілавых структур і, па яго словах, моцна збіты. Прычынай затрымання стала тое, што ён папрасіў сяброў сфатаграфаваць яго на фоне Дома ўрада з самаробным плакатам «Лукашэнка пад трыбунал». Заява Віктара Нікіценкі аб узбуджэнні крымінальнай справы разгледжаная Следчым камітэтам. Нягледзячы на тое, што экспертам былі ўсталяваныя цялесныя пашкоджанні на целе В. Нікіценкі, ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да супрацоўнікаў МУС адмоўлена.

У кастрычніку 2015 г. вызваленыя палітвязні Яўген Васьковіч, Ігар Аліневіч, Юры Рубцоў і Мікалай Дзядок распавялі Праваабарончаму цэнтру «Вясна» пра ўмовы ўтрымання ў месцах пазбаўлення волі і жорсткім, зневажальным абыходжанні са зняволенымі.

Не завершанае расследаванне па факце збіцця і грубага абыходжання з удзельнікамі панк-канцэрта ў жніўні гэтага года. Як патлумачыў адзін з пацярпелых, прайшло тры месяцы, але да гэтага часу следчы толькі выклікаў усіх сведак, якіх ён паказаў у заяве, і апытаў іх. Высноваў па справе следства не зрабіла.

Зміцер Федарук, якога затрымалі 12 кастрычніка на матчы ў Барысаве і пратрымалі амаль суткі ў Барысаўскім РАУС, паскардзіўся на ўмовы ўтрымання ў мясцовым ізалятары часовага ўтрымання. Адказ, які атрымаў актывіст з Рэспубліканскага цэнтра эпідэміялогіі Дэпартамента фінансаў і тылу МУС Беларусі, толькі пацвердзіў яго словы пра ўмовы, у якіх вымушаны знаходзіцца людзі ў чаканні суда або пад арыштам. Пры правядзенні праверкі было ўстаноўлена, што санітарна-тэхнічны стан камеры нездавальняючы: на стыку сцяны і столі каля вокнаў маюцца сляды вільгаці, санітарна-тэхнічнае абсталяванне вельмі зношанае. Рукамыйнік няспраўны. У адным з двух вокнаў адсутнічае шкло. Аконныя рамы зношаныя. Натуральнае асвятленне недастатковае. Капітальны рамонт запланаваны на 2015 год, але ў сувязі з адсутнасцю фінансавання перанесены на больш позні́я тэрміны.

Актывіст «Еўрапейскай Беларусі» Леанід Кулакоў, які скардзіўся на ўмовы ўтрымання ў Смалявіцкім ІЧУ, дзе ён адбываў адміністрацыйны арышт, атрымаў адказ на свой зварот у пракуратуру гэтага ж раёна. Пракуратура сцвярджае, што довады аб парушэннях заканадаўства аб матэрыяльна-бытавым і медыка-санітарным забеспячэнні асобаў, якія ўтрымліваюцца ў ІЧУ Смалявіцкага РАУС, па выніках праведзенай пракуратурай Смалявіцкага раёна праверкі свайго пацверджання не знайшлі. Аднак такая выснова супярэчыць устаноўленым Упраўленнем

наглядна-выканаўчай дзейнасці Міністэрства ўнутраных справаў Беларусі фактах парушэнняў правілаў утрымання зняволеных у ІЧУ: падчас праверкі былі ўстаноўленыя асобныя недахопы ў матэрыяльна-тэхнічным забеспячэнні ІЧУ Смалявіцкага РАУС. Пасля звароту Л. Кулакова ў ІЧУ Смалявіцкага РАУС праведзеныя некаторыя работы па паляпшэнню бытавых умоваў зняволеных ІЧУ, аднак МУС не прызнала парушэнняў правоў зняволеных.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» звярнуўся да начальніка Дэпартамента выканання пакаранняў МУС Рэспублікі Беларусь па пытанні ўмоваў утрымання ў зняволенні былога кіраўніка праваабарончай арганізацыі «Платформ Інавейшн» Андрэя Бандарэнкі ў сувязі з тым, што ў перыяд адбыцця пакарання ўзнікла небяспека для яго жыцця і здароўя. Гэта адбылося ў сувязі з патураннем адміністрацый калоній усталяванню сярод зняволеных нефармальных адносінаў, якія дазваляюць ствараць умовы для жорсткага, зневажальнага абыходжання з асобнымі асуджанымі. Кіраўніцтва калоніі, замест абароны правоў зняволенага праваабаронцы, фармальна і без уліку асаблівых умоваў, створаных некаторай часткай зняволеных для А. Бандарэнкі, у адсутнасць належнага кантролю адміністрацыі калоніі, адрэагавала на фармальнае парушэнне ім дысцыплінарных правілаў. А. Бандарэнка атрымаў некалькі дысцыплінарных спагнанняў, стаў “злосным парушальнікам” парадку адбывання пакарання, у выніку чаго быў пазбаўлены права на амністыю і быў змешчаны ў турму.

Праваабарончы цэнтр «Вясна» заклікаў спыніць неабгрунтаваны пераслед А. Бандарэнкі з боку адміністрацыі калоніі; правесці праверку ўмоваў утрымання асуджанага А. Бандарэнкі; абавязаць калонію стварыць бяспечныя ўмовы ўтрымання асуджанага, якія б не прыніжалі яго чалавечую годнасць; дазволіць сустрэчу А. Бандарэнкі з прадстаўнікамі праваабарончых арганізацый.

**9. Адвольныя затрыманні**

У 2014 годзе праваабаронцы ўжо звярталіся да тэматыкі адвольных затрыманняў у Беларусі; вынікам сумеснай міжнароднай даследчай місіі Міжнароднай федэрацыі за правы чалавека і ПЦ «Вясна» стаў даклад «Адвольныя прэвентыўныя затрыманні актывістаў у Беларусі». Тым не менш, на працягу 2015 г. ізноў зафіксаваныя выпадкі адвольных, у тым ліку так званых прэвентыўных, затрыманняў.

У студзені 2015 г. ахвярамі масавага пераследу сталі актывісты анархісцкага руху. Першыя затрыманні адбыліся 10 студзеня перад пачаткам панк-канцэрта ў мінскім клубе «Піраты». Па словах супрацоўнікаў міліцыі, яны шукалі псіхатропы, нічога не знайшлі, але канцэрт быў сарваны. Былі затрыманыя тры чалавекі, на якіх былі складзеныя пратаколы аб адміністрацыйных правапарушэннях па артыкуле 17.1 («дробнае хуліганства»), а таксама на двух дадаткова – па арт. 17.11 («выраб, распаўсюджванне і (або) захоўванне экстрэмісцкіх матэрыялаў»). Па выніках разгляду справаў судом, абвінавачванне ў захоўванні экстрэмісцкіх матэрыялаў не пацвердзілася; адна затрыманая была прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу ў 1 800 000 рублёў, двум суддзя прызначыў адміністрацыйны арышт па 10 сутак. 16 студзеня анархісты правялі ў Менску серыю акцый у знак пратэсту супраць дзеянняў праваахоўных органаў. Гэтыя акцыі сталі падставай для далейшых затрыманняў і арыштаў. 21 студзеня судом Ленінскага раёна г. Менска былі прысуджаныя да адміністрацыйнага арышту тэрмінам на 15 сутак чатыры актывісты анархісцкага руху.

Для ізаляцыі прадстаўнікоў пэўных сацыяльных групаў па-ранейшаму выкарыстоўваліся абвінавачванні ў дробным хуліганстве і непадпарадкаванні супрацоўнікам міліцыі, у некаторых выпадках – у сукупнасці для павелічэння тэрміну арышту.

Яскравы прыклад сфабрыкаванай справы для адвольнага арышту – сітуацыя з былым палітвязнем, актывістам анархісцкага руху А. Францкевічам. 2 лютага да яго на працу прыйшлі супрацоўнікі міліцыі. Дырэктар папрасіў Аляксандра спусціцца да ўваходу ў будынак, дзе людзі ў цывільным яго

затрымалі. Актывіста даставілі ў РУУС Савецкага раёна Менска, дзе на яго былі складзеныя два пратаколы: за здзяйсненне дробнага хуліганства і непадпарадкаванне законным патрабаванням службовай асобы. На наступны дзень у судзе Савецкага раёна адбылося разбіральніцтва, падчас якога на падставе ілжэсведчанняў супрацоўнікаў міліцыі А. Францкевічу прызначана 25 сутак адміністрацыйнага арышту. У гэты ж дзень была асуджаная па аналагічных падставах у судзе Савецкага раёна на 10 сутак адміністрацыйнага арышту яшчэ адна прадстаўніца анархісцкага руху. Яна таксама была затрыманая на працоўным месцы.

Адвольнае прэвентыўнае затрыманне дырэктара фірмы міжнародных грузаперавозак Сяргея Штоды было ўжыта з мэтай спынення яго актыўнасці ў адстойванні інтарэсаў грузаперавозчыкаў і недапушчэння магчымых акцый пратэсту з іх боку. 3 лютага Сяргей Штода паведаміў, што плануе сустрэцца з віцэ-прэм'ерам Васілём Мацюшэўскім, і, калі не атрымаецца дамовіцца аб адмене накладзеных на грузаперавозчыкаў штрафаў за нібыта парушэнні правілаў перавозак грузаў у рамках сістэмы BelToll, 4 лютага вывесці на вуліцу тысячы пацярпелых бізнесменаў. Пасля паходу ў Саўмін сувязь з бізнэсмэнам абарвалася, а пазней стала вядома, што Сяргея Штоду затрымалі пасля выхаду з ўрадавага будынка супрацоўнікі АМАП, даставілі ў РУУС Цэнтральнага раёна, дзе на яго быў складзены пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні за дробнае хуліганства. Суд прызначыў яму арышт тэрмінам на 15 сутак. Пасля адбыцця пакарання Сяргей Штода паведаміў, што ўлады не выключалі, што акцыя ля Дома ўрада можа адбыцца і падрыхтавалі ў Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў камеры на двух паверхах.

У красавіку актывіст экалагічнага руху Станіслаў Рамановіч затрыманы і арыштаваны без падстаў тэрмінам на 15 сутак.

Яшчэ адной сацыяльнай групай, прадстаўнікі якой рэгулярна падвяргаюцца адвольным затрыманням, сталі футбольныя заўзятары.

Увечары 7 траўня быў затрыманы, без падстаў абвінавачаны ў здзяйсненні дробнага хуліганства і пакараны адміністрацыйным арыштам тэрмінам на 15 сутак адзін з заўзятараў ФК «Дынама» Юрый Белавусаў; у яго міліцыяй канфіскаваныя персанальны камп’ютар і планшэт. Ёсць звесткі аб арышце яшчэ траіх фанатаў таго ж клуба.

Футбольны заўзятар Максім Маліноўскі абвінавачваўся ў дробным хуліганстве і правёў двое сутак у ІЧУ. Пасля судом яго справа была спыненая на рэабілітуючых падставах.

27 верасня пікетам актывіста Рыгора Грыка ў Баранавічах супраць расейскіх ваенных базаў і за сацыяльныя правы людзей зацікавілася група футбольных заўзятараў (каля 30 чалавек). Балельшчыкаў без тлумачэнняў затрымалі супрацоўнікі міліцыі і павезлі ў РАУС.

Чацвёра футбольных заўзятараў з Брэста 10 кастрычніка былі затрыманыя і без падстаў абвінавачаныя ў дробным хуліганстве. 30 кастрычніка яны паўсталі перад судом, які спыніў справу праз малазначнасць правапарушэння.

Пяць футбольных заўзятараў з нефармальнага беларускамоўнага клуба «Б-12» затрыманыя на адборачным матчы чэмпіянату Еўропы Беларусь – Македонія, які праходзіў вечарам 12 кастрычніка на «Барысаў-Арэне». Пасля яны па надуманых абвінавачваннях асуджаныя ў адміністрацыйным парадку: Барысаўскі раённы суд прысудзіў футбольных фанатаў да штрафаў у 1 800 000 рублёў кожнага.

На матчы паміж ФК «Слуцк» і ФК «Гомель» 21 лістапада на госцевым сектары фанаты паднялі расцяжку і запалілі петарды. У канцы матча ўвесь госцевы сектар (каля 50 чалавек) быў дастаўлены ў РАУС Слуцка. Па дарозе і ў самым аддзеле, як паведамляе belultras.by, прыезджыя заўзятары пастаянна падвяргаліся зьбіццю, пагрозам і абразам ад супрацоўнікаў АМАПа. Пашыхтаваўшы затрыманых на расцяжку па перыметры двара РАУС, супрацоўнікі міліцыі ўсіх

здымалі на відэа, прымушаючы паказваць малюнкі на майках і татуіроўкі, выбарачна збівалі дубінкамі. Праз некалькі гадзінаў усе былі вызваленыя, на аднаго непаўналетняга затрыманага складзены пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні.

Ахвярамі адвольных затрыманняў рэгулярна становяцца грамадскія актывісты.

2 ліпеня грамадскі актывіст Леанід Кулакоў быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі ў сувязі з тым, што на ім была надзета майка з «Пагоняй» і бел-чырвона-белым сцягам; пасля трохгадзіннага незаконнага ўтрымання ў Ленінскім РУУС ён быў адпушчаны.

7 ліпеня быў затрыманы Міраслаў Лазоўскі, які быў апрануты ў майку з надпісам «Азоў» і меў пры сабе кнігі. Пасля пяці гадзінаў затрымання ён быў без належных падставаў прыцягнуты да адказнасці за дробнае хуліганства і на яго накладзены штраф у памеры 360 000 рублёў.

12 жніўня ў Мікашэвічах быў затрыманы Леанід Дубаносаў, які збіраў подпісы за патэнцыйнага кандыдата ў Прэзідэнты Таццяну Караткевіч. Затрыманне супрацоўнік міліцыі абгрунтаваў званком ў міліцыю, што нібыта Леанід Дубаносаў збірае подпісы ў стане алкагольнага ап'янення. Актывіста вымусілі прайсці агляд, які паказаў, што той быў цвярозы.

9 верасня ў Ельску Гомельскай вобласці супрацоўнікі міліцыі затрымалі актывіста «Еўрапейскай Беларусі» Аляксандра Рыбачэнку. Ён, заўважыўшы ў райцэнтры ўлёткі, якія заклікаюць да байкоту выбараў, паспрабаваў іх сфатаграфаваць. А. Рыбачэнку ўтрымлівалі ў РАУС больш за тры гадзіны. Пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні не складаўся.

17 ліпеня былі затрыманыя Юры Шульган і Павел Канавальчык, якія прыйшлі да будынка Цэнтрвыбаркама для рэгістрацыі ініцыятыўнай групы па вылучэнні кандыдатам у Прэзідэнты Юрыя Шульгана. Затрыманне ім патлумачылі неабходнасцю прайсці агляд на прадмет знаходжання ў стане алкагольнага ап'янення. Аднак судом яны былі прыцягнуты да адказнасці за нецэнзурную лаянку ў калідоры памяшкання РУУС; сведкамі выступілі супрацоўнікі РУУС. Запісы камераў назірання ў РУУС судом даследаваныя не былі. Такім чынам, на думку праваабаронцаў, мела месца адвольнае “прэвентыўнае” затрыманне. Пастановы безвынікова абскарджаныя ў Менгарсудзе.

Міліцыя сарвала рок-канцэрт, які праводзіўся 1 жніўня каля п. Ратамка. Затрыманне маладых людзей, у тым ліку, дзяўчатаў, суправаджалася непрапарцыйным ужываннем фізічнай сілы і спецсродкаў. Іх сфабрыкаваныя адміністрацыйныя справы суддзёй былі адпраўленыя на дапрацоўку.

6 лістапада на чыгуначным вакзале г. Менска супрацоўнікі міліцыі затрымалі лідэра грамадзянскай ініцыятывы «Супраць беззаконня ў судах і пракуратуры» Тамару Сяргей. Разам з юрыстам знаходзіліся яшчэ некалькі актывістак ініцыятывы. Жанчыны мелі намер прыехаць да месца інаўгурацыі А. Лукашэнкі, каб перадаць яму петыцыю. Прадугледжаных законам падставаў для затрымання ў супрацоўнікаў міліцыі не мелася; Тамары Сяргей прад’явілі падазрэнне ў здзяйсненні ёю крадзяжа.

**10. Парушэнні сацыяльных і эканамічных правоў**

ПЦ «Вясна» і Міжнародная федэрацыя за правы чалавека (FIDH) ужо звярталіся да праблемы прымусовай працы ў Беларусі. З таго часу становішча не палепшылася.

Нягледзячы на рэкамендацыі Камітэта ААН па эканамічных, сацыяльных і культурных правах ураду Беларусі аб ліквідацыі элементаў прымусовай працы ў краіне, пасля працяглай дыскусіі 2 красавіка Прэзідэнт падпісаў Дэкрэт №3 «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства». Беларускія і міжнародныя праваабарончыя арганізацыі заявілі, што Дэкрэт супярэчыць Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і міжнародным нормам у галіне правоў чалавека, паколькі прадугледжвае стымуляванне

занятасці насельніцтва з дапамогай пагрозы выплаты спецыяльнага збору і адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафу або арышту. Варта адзначыць, што кіраўнік краіны не хавае мэтаў прыняцця Дэкрэта: максімальнае прымусовае працаўладкаванне, няхай і фармальнае, усіх незанятых па розных прычынах жыхароў краіны і забеспячэнне паступлення ад іх грошай у бюджэт. Ужо 6 траўня Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу ўхваліла Дэкрэт Прэзідэнта «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства». Прадугледжана выплата збору асобамі, якія не ўдзельнічаюць у фінансаванні дзяржаўных расходаў шляхам выплаты падаткаў, пад пагрозай адміністрацыйнага арышту з прыцягненнем да абавязковых працаў. Ад выплаты гэтага збору вызваленыя некаторыя катэгорыі непрацуючых грамадзянаў – жанчыны, занятыя выхаваннем дзяцей да пэўнага ўзросту, людзі з інваліднасцю, пенсіянеры, студэнты.

Міліцыі прадастаўлена права ў пазасудовым парадку падвяргаць арышту так званых "абавязаных асобаў" (бацькоў, у якіх адабралі дзяцей і змясцілі на дзяржаўнае забеспячэнне) за разавую няяўку на працу і накіроўваць іх на абавязковыя працы.

У розных раёнах Беларусі мясцовай выканаўчай уладай практыкуецца ціск на супрацоўнікаў мясцовых прадпрыемстваў і арганізацый для прымусу да ўдзелу ў "суботніках", якія прадугледжваюць бясплатную працу па прыборцы вуліцаў і перавод уласных грошай на аплату правядзення розных святочных мерапрыемстваў.

У Круглянскім раёне 27 кастрычніка прайшоў чарговы «Дзень бязвыплатнай працы на працоўных месцах». Згодна з рашэннем Круглянскага райвыканкама, усе работнікі раёна абавязаны пералічыць заробленыя ў гэты дзень грошы на спецыяльны рахунак раённага выканаўчага камітэта.

Раённая газета «Сельскае жыццё» паведаміла, што райвыканкам прыняў рашэнне правесці ў Круглянскім раёне Дзень бязвыплатнай працы "па прапанове шэрагу мясцовых працоўных калектываў у мэтах прыцягнення грашовых сродкаў для выканання работаў па добраўпарадкаванні, бягучым рамонце аўтапаркоўкі, рамонту будынка дзіцячай кансультацыі райбальніцы, набыцця мэблі для дзіцячай кансультацыі УА «Круглянская раённая бальніца»". Арганізацыям раёна рэкамендавана да 20 лістапада пералічыць грашовыя сродкі, заробленыя ў Дзень бязвыплатнай працы, у добраахвотным парадку на пазабюджэтны рахунак раённага выканаўчага камітэта.

Увосень 2015 г. у Круглым праходзілі абласныя «Дажынкі», а да гэтага суботнікі ў раёне праводзіліся ледзь не кожны месяц. Таксама 25 лютага ў Круглянскім раёне быў праведзены «Дзень бязвыплатнай працы на працоўных месцах» згодна з рашэннем Круглянскага райвыканкама ў мэтах прыцягнення грашовых сродкаў для выканання работаў па добраўпарадкаванні г.п. Круглае і ў сувязі з правядзеннем абласнога фестывалю-кірмашу працаўнікоў вёскі «Дажынкі-2015» — зноў "па прапанове працоўных калектываў".

У Беларусі працягваецца практыка прымусовай ізаляцыі асобаў, якія пакутуюць ад алкагольнай залежнасці, у лячэбна-працоўныя прафілакторыі. Начальнік Дэпартамента выканання пакарання агучыў даныя аб колькасці зняволеных лячэбна-працоўных прафілакторыяў ў Беларусі: у чэрвені іх было каля 6 700 чалавек.

Праваабарончы цэнтр "Вясна"
https://spring96.org